PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 47 (2010) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 20 ЛІСТАПАДА 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

*Аляксандр Максімюк*

## Трагічнае паломніцтва



*Мікалай Шпаковіч.*
**Фота з сямейнага альбома**

— Каму цяпер гэта ўсё мае быць? — Мікалай Шпаковіч раскладае рукі, паказваючы на гаспадарку. — У нас жа ўсе свае машыны, свая сталярня... Адзін сын быў, што цяпер? Эх, сукінсыны...

Смерць сына моцна прыбіла Шпаковіча, упаў на здароўі. Сам прызнае, што засталася з яго палова. Паказвае пры гэтым ўстаўленую ў бок пластмасавую трубку.

Пахаванне Мікалая Шпаковіча, сына, адбылося 23 верасня гэтага года ў Белавежы. Грамадой сышліся жыхары мястэчка. Мікалай Шпаковіч меў 39 гадоў, пакінуў жонку Марыю і чацвёра дзетак. Найменшаму з іх, дзяўчынцы Анэтцы, 3 гады.

— Сына майго, — кажа Шпаковіч-бацька, — ведала, лічы, уся Белавежа. Да людзей быў хлопец. Не раз сваё ў полі пакіне, а пойдзе і чалавеку дапаможа. Са сваім справіцца паспею, гаварыў. Калі псаваўся ў каго самаход, да яго таксама ішлі, механіку ведаў, а і ўвогуле, меў ён рукі да работы.

Бацька Мікалая мае мяккае вымаўленне, набліжанае да кніжнай беларускай мовы; удава, Марыя Шпаковіч, паходзіць з Гарадзіска і гаворыць цвёрдым дыялектам.

— Спачатку я не ведала, — расказвала Марыя Шпаковіч, — што з ім сталася. Я толькі атрымала тэлефон з Тарнопаля, што муж у бальніцы і што ў цяжкім стане. Было гэта ў пятніцу 9 верасня...

4 верасня Мікалай Шпаковіч яшчэ з адным белавежцам выехалі праз Брэст да знаёмага ў Пачаеў. Шпаковіч пазнаёміўся з ім у царкве ў Вярстоку, дзе той клаў пазалоту. Мікалай, як сталяр, сам займаўся рэстаўрацыяй аб'ектаў, некаторы час працаваў у Варшаве пры аднаўленні Вялікага тэатра.

— ... яшчэ гэтага самага дня вечарам, — расказвала далей Марыя Шпаковіч, — я сабралася і паехала да яго. Наступнага дня пасля абеду я была ўжо ў Пачаеве, а на шостую гадзіну вечара ў Тарнопалі ў бальніцы. Муж быў пасля другой аперацыі, чакаў на трэцюю. Ён мне расказаў, як было.

7 верасня Мікалай Шпаковіч з калегам аглядалі Пачаеў. Пазней зайшлі ў рэстаран, дзе перакусілі і выпілі па піве, ці сто грам. Мікалай Шпаковіч выйшаў з рэстарана. На тратуары ён спатыкнуўся, закінула ім. Схіліўся, каб паправіць лапцік — яму балела нага і не мог хадзіць у нармальных чаравіках. У той жа час падышлі да яго тры міліцыянеры, якія стаялі недалёка ад рэстарана. Папрасілі дакументы. Шпаковіч даў ім пашпарт. Вынікла прыблізна такая размова.

— А, паляк?

— Паляк.

— А долары і маркі ёсць?

— Няма ў мяне ніякіх долараў і марак.

— Як то, ты прыехаў у нашу страну і не маеш валюты?

— Як сабе хочаце, але ў мяне толькі польскія грошы.

— Польскія грошы нам не патрэбныя.

— Не дам вам, бо не маю.

Два міліцыянеры схапілі Шпаковіча, а трэці стаў біць. Пазней зацягнулі ў машыну, дзе білі па спіне. Шпаковіч не змог акрэсліць чым. Ён чуў размову міліцыянераў: „Давайце вывязем яго ў лес і выкінем. Калі прачмухаецца, да хаты вернецца, але не будзе ведаць хто і як". Далей Шпаковіч не памятае, што з ім было — страціў прытомнасць. Ачнуўся ў камісарыяце. З'явіўся камендант.

— Што гэта за мужчына? — запытаў.

— Паляк, — адказалі тыя.

— Што ён тут робіць?

— А мы не ведаем, узялі яго з-пад рэстарана. Ён, відаць, атруціўся або штосьці такое.

— Ну то выклікайце зараз хуткую дапамогу і ў бальніцу з ім.

Завезлі яго ў пачаеўскую бальніцу, у якой правёў ноч. Там давалі яму лякарствы, каб прачысціць страўнік. Сам жа Шпаковіч, ад болю, не мог вымавіць і слова. Перавезлі яго ў Крамянец, дзе прасвятлілі жывот і, нічога не знайшоўшы, вярнулі ў Пачаеў. Тут правёў наступную ноч. Сядзеў пры ім белавежскі калега. Шпаковіч жэстамі паказваў, што яму трэба. Раніцай у бальніцу зайшоў той жа лекар, што дзяжурыў вечарам папярэдняга дня.

— Што з гэтым палякам, што ён усё тут?

Шпаковіч не мог аддаць мачы. Лекар вырашыў сцягнуць яе — толькі тады Шпаковічу аблегчылася і ён сказаў пра пабоі.

Павезлі яго ў Крамянец, зрабілі рэнтген нырак, выявілі лопнуты мачавы пузыр. Зрабілі аперацыю.

— Як ён і калі трапіў у Тарнопаль, — расказвала далей Марыя Шпаковіч, — я не ведаю, але калі я заехала, ён там быў. Прыходзілі ўжо да яго з пракуратуры. Калі я адведала яго ў нядзелю (11 верасня) пасля абеду, ён меў трэцюю аперацыю. Мне нічога не сказалі. Ён не выглядаў, што яму патрэбна аперацыя, гаварыў са мною нармальна, ведаў, дзе ён і што з ім. Калі я запытала лекараў, яны сказалі, што ў Крамянцы дрэнна

*Працяг на стар. 3*



*Над магілай: бацькі і жонка з дачкою.* **Фота аўтара**

*Мікола Ваўранюк*

## АДСПЯВАЛІ БАРДЫ

Калі Крыстафор Сяськевіч зароў у мікрафон:

*Самаход пад хатай, тэлевізар грае,*
*А мая Айчына-маці травой зарастае!*

з месцаў падняліся старэйшыя кабеты і радочкам пакінулі залу. Адна з іх кінула ў дзвярах: *Цьфу. Сораму не маюць! Гэта мае быць беларуская песня!?*

***

Два вечары — у суботу і нядзелю, 29 і 30 кастрычніка — у Бельскім доме культуры гучала беларуская бардаўская песня. Калі для арганізатараў была гэта праверка, наколькі такога тыпу імпрэза патрэбная ў Бельску, дык для вялікай часткі публікі — магчымасць упершыню пачуць, што гэта такое „бардаўская песня". Старэйшыя, якія прыйшлі паслухаць „Маланку", не даседзелі да канца канцэрта. Выразныя клопаты не толькі са зразуменнем намёкаў, але і элементарнага сэнсу песень, мела моладзь (гэта ж не рок-музыка, якая карыстаецца паўсюдна вядомым кодам). Тым больш, што некаторыя выканаўцы з Беларусі абсалютна не ўзялі пад развагу, перад якой публікай пакажуцца. Толькі „Белы сон" і Віктар Шалкевіч задаволілі калі не ўсіх, дык амаль.

У суботу „Белы сон" пачынаў канцэрт, а Віктар Шалкевіч канчаў. Між гэтым зала апусцела напалову. Выходзілі не толькі пенсіянеры, але і ліцэісты. Канцэрт цягнуўся доўга, прычым узровень часткі выканаўцаў быў, эўфемістычна кажучы, нізкі. Добра, што пашыраецца геаграфія беларускіх бардаў на Магілёў ці Гомель. Але, на жаль, Ігар Мухін-Рабянок у ролі ранняга Сокала-Воюша, ці Зміцер Бартосік падобны да позняга Мусліма Магамаева не маглі стаць адкрыццём фестывалю. Таксама дзяўчаты з 4 курса беларускай філалогіі БДУ Лана Медзіч і Таццяна Забаштанская паказалі ўсяго школьны ўзровень. Тая першая, што праўда, сваімі лірычнымі, асабістымі песнямі ўзяла ўзнагароду Бацькоўскай рады Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча.

Крыстафор Сяськевіч не толькі прагнаў з залы паважаных слухачак старэйшага пакалення, але і стварыў новы жанр у музыцы. Ян Максімюк тут жа запрапанаваў назваць яго „звянк". А гэта таму, што аб'ядноўвае ён у сабе элементы панка і звягу. Мне гэтае слова даспадобы яшчэ і таму, што

*Працяг на стар. 5*

Усім маім
**сябрам**
з Бельска, Беластока
і Варшавы
**шчыра дзякую**
за памяць
і чалавечыя словы

— *Надзея Артымовіч*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Partia Emerytów i Rencistów zamierza wystawić własnych kandydatów na posłów w przyszłych wyborach parlamentarnych. Byłoby dobrze, gdyby zdobyła 100% mandatów i doprowadziła wreszcie socjalizm do absurdu.*

*(Najwyższy Czas, nr 45)*

* * *

*Pan Olechowski podał się więc do dymisji i cały świat zastygł w napięciu i zdumieniu. Struchlała światowa finansjera i elity polityczne. Bowiem na początku nie było wiadomo z której posady pan Olechowski się zdymisjonował — z bankowej czy państwowej. Finansjera szybko odetchnęła, polityczni cali w nerwach musieli czekać dobę. Światowy ład polityczny znalazł się w zagrożeniu. Skoro może dorabiać minister spraw zagranicznych, to dlaczego nie premier albo prezydent, ostatnio skarżący się na niską pensję, która mu nie starcza ani na światło, ani na gaz!*

*(Gazeta Współczesna, nr 213)*

Бедныя гэтыя палітыкі! Вазьмі, пражыві месяц за 50 „baniek".

* * *

*Pod pretekstem pomocy charytatywnej wwożone są do Polski śmiecie niemieckie, holenderskie, belgijskie, tak na przykład próbowano wwieźć partię pordzewiałych i kompletnie zdezelowanych łóżek oraz odpady szpitalne i używane bandaże.*

*(Polityka, nr 43)*

Цікава, ці дзеткі над Рэйнам вывучаюць вершык „Бамбо над Вісло мешка, он наш колешка"?

* * *

*Na wniosek Prezydenta Białej Rusi p. Aleksandra Łukaszenki, Parlament zlikwidował sowiety w dzielnicach miast i na wsi. No-no!*

*(Najwyższy Czas, nr 43)*

Цяпер сяляне нават да каня не гавораць: „Но", толькі: „Прошэ ехаць!".

* * *

*Nie raz byłem świadkiem tego, jak dzieci ze wzruszeniem recytują słowa znanego wiersza „Kto ty jesteś? Polak mały...". Słowa wyciskają łzy z oczu ich dziadków i rodziców, wszyscy się cieszą, że dziecko tak pięknie wymawia te słowa, że przyznaje się do polskości, że czuje się Polakiem. Ale czy tego wystarczy, żeby z tego małego Polaka wyrósł w przyszłości ten mężny, dzielny, szlachetny Polak, pełen dumy narodowej, który szczyci się tym, że jest Polakiem. To przede wszystkim zależy od rodziny. Musi to być rodzina, która przekazuje i pielęgnuje polskie tradycje, polską kulturę, polską mowę.*

*(Głos znad Niemna, nr 33; pismo Związku Polaków na Białorusi)*

Ці мы калі-небудзь напішам пра такую атмасферу ў беларускіх сем'ях на Беласточчыне?

* * *

*Co 40 minut gwałcona jest w Polsce kobieta. Znawcy tematu twierdzą, że częstotliwość gwałtów jest dziesięciokrotnie większa. Dodają, że obyczaje panujące w Polsce porównać można jedynie z krajami arabskimi. Najczęściej gwałciciel cieszy się większą akceptacją społeczną, niż ofiara gwałtu. W mniejszych miejscowościach gwałciciel postrzegany jest jako „równiacha", któremu można wybaczyć. Jego ofiarę przez wiele lat uznaje się za trędowatą.*

*(Wprost, nr 40)*

* * *

*W Puńsku języka polskiego nie słyszy się prawie w ogóle. W domach, w szkole, w urzędzie, na ulicy — wszędzie mówi się po litewsku. Ale dzieci z rodzin litewskich wygrywają olimpiady z języka polskiego.*

*(Kurier Poranny, nr 235)*

* * *

*Pojawiła się szansa reaktywowania festiwalu piosenki żołnierskiej w Kołobrzegu. Organizatorzy mają nadzieję, że w niedalekiej przyszłości zaśpiewają w Kołobrzegu zespoły reprezentacyjne wszystkich państw NATO.*

*(Polityka, nr 44)*

O, ja, ja. Gut pesnia! Bedzemy szpewać.

* * *

*Намеснік старшыні Саюза палякаў у Беларусі Тадэвуш Малевіч заявіў, што канцлагер у Картуз-Бярозе быў як санаторыя для беларусаў.*

*(Свабода, н-р 38)*

Толькі наглядальніку канцлагер можа ўспамінацца як дом адпачынку.

* * *

*Jesteśmy narodem chłopskim, nawet Kościół w Polsce jest chłopski i to tłumaczy nietolerancję i wszelką pazerność. Także na zaszczyty.*

*(Polityka, nr 44)*

* * *

*Poseł Soska z PSL bawił niedawno w Paryżu, od polskiego ambasadora zażądał tam, by ten wizytę mu zaaranżował „gastronomicznie i rozrywkowo". Od czasu kiedy lud polski zaczął swoje wędrówki, to jest od momentu objęcia władzy przez kolegów z PSL-u większości państwowych i parlamentarych stanowisk, polskie placówki dyplomatyczne narażone są na organizację imprez gastronomicznych dla chłopskich parlamentarzystów.*

*(Gazeta Współczesna, nr 209)*

* * *

*Трэба проста пабачыць Беларускі культурны цэнтр у Гайнаўцы (Музей — рэд.), каб адчуць, што ўзводзілі яго натхнёныя адзіным пачуццём людзі, якія працуюць „за дзякуй" ды яшчэ выдаткоўваюць на будову свае ўласныя грошы.*

*(Народная газета, 13.10.1994)*

Выглядае на тое, што ёсць яшчэ ахвярныя беларусы на Гайнаўшчыне.

* * *

*J.E. Marian Soares, Prezydent Portugalii, w czasie wizyty w Polsce spotkał się z J.E. Lechem Wałęsą. W ramach rozmów na najwyższym szczeblu omówiono zalety kuchni w Pałacu Namiestnikowskim. Gospodarz narzekał, że ustrój demokratyczny nie pozwala Mu na realizowanie własnych koncepcji w tym zakresie. J.E. Wałęsa poinformował Swego Gościa, gdzie najlepiej biorą szczupaki. Na tym rozmowy zakończono.*

*(Najwyższy Czas, nr 45)*

# З мінулага тыдня

**У Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку** служылася набажэнства за Айчыну ў гонар 76 гадавіны вяртання незалежнасці Польшчы. Багаслужбу ўзначаліў праваслаўны Ардынарый Войска Польскага, Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава. Прысутнічалі прадстаўнікі ўлад, грамадскіх арганізацый, войска, паліцыі і каталіцкага духавенства.

**З нагоды Свята Незалежнасці** адбылася ўрачыстасць афіцыйнай перадачы ў карыстанне будынка **Пачатковай школы н-р 6 у Гайнаўцы.** З настаўнікамі і школьнай моладдзю сустрэўся **Тадэўш Калюта** — новы куратар асветы ў Беластоку. Зараз у гэтай школе 600 дзяцей вучацца ў 17 залах і святліцы. Працягваецца пабудова чарговых 9 класных памяшканняў, спартзалы і афармленне фасада.

**Літоўскі консул Відмантас Павільёніс** нанёс афіцыйны візіт беластоцкаму ваяводу **Анджэю Гаеўскаму** і віцэ-ваяводу **Гжэгажу Рыкоўскаму.** Консульства ў Сэйнах абымае сваёй дзейнасцю Сувальскае, Ломжынскае і Беластоцкае ваяводствы.

**Грамадскі камітэт дапамогі „Рубеж"** узнік у Беластоку. Новастворaная арганізацыя за мэту ставіць харытатыўную дапамогу людзям на пагранічы Польшчы, Літвы і Беларусі. Прадугледжваецца пастаўка за ўсходнюю граніцу вопраткі, лякарстваў, навуковых дапаможнікаў, садзейнічанне ў галіне асветы і культуры, а таксама апека над месцамі нацыянальнай памяці. Перад Раждаством першыя пачкі з пледамі, вопраткай, пасцеллю і абуткам трапяць у найбяднейшыя сем'і ў Беларусі.

**II Міжнародны фармакалагічны і медыцынскі кірмаш** з удзелам 64 краёвых фірмаў і прадстаўнікоў замежных арганізацый адбыўся ў Беластоку. На кірмашы прэзентаваліся лякарствы, абсталяванне кабінетаў і электронная апаратура. Мерапрыемству спадарожнічалі польска-беларускія семінары наконт прадукцыі і экспарту польскіх лякарстваў. У Беласток прыехалі прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь, лекары і фармацэўты з Беларусі і Літвы.

**На Беласточчыне** зарэгістраваны 61 чалавек, заражаны вірусам HIV, які выклікае СНІД — 14 жанчын і 47 мужчын. З гэтага ліку 41 асоба жыве ў Беластоку, 18 — у Бельску-Падляшскім і па адным у Гайнаўцы і ў Саколцы. Наймаладшым заражаным аказалася двухгадовае дзіця, а найстарэйшы мае 45 гадоў.

**У цэнтры дызайна для дзяцей-інвалідаў у Гайнаўцы** адкрылася выстаўка дзіцячай мэблі. Экспазіцыя — вынік мэблевага пленэру, які быў прысвечаны фармаванню асяроддзя дзяцей-калек.

**У Гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы** прайшоў вечар у памяць Аляксея Зіна — грамадскага дзеяча, дзякуючы якому ў горадзе пабудавалі паліклініку, бібліятэку і бальніцу. Удзельнікі вечарыны прапанавалі, каб новаму шпіталю ў Гайнаўцы прысвоіць яго імя.

**Беластоцкія паліцыянты** супольна з калегамі з суседніх ваяводстваў будуць канваіраваць **44 цягнікі** з грамадзянамі былога СССР, якія праязджаюць праз Беластоцкае ваяводства. Паліцыя будзе наглядаць за парадкам у цягніках і на вакзалах.

**У Белавежскай пушчы** ляснік ссек дуб — помнік прыроды, а шыльдачку, якая інфармавала аб гэтым, перавесіў на суседнюю дрэва. Надлясьнічы звольніў з работы несумленнага лесніка, а Раённая пракуратура ў Гайнаўцы занялася дэталёвым высвятленнем справы.

**На КПП Полаўцы** пагранічнікі затрымалі двух грамадзян Беларусі, якія намерваліся перасячы граніцу на ўкрадзенай у Бельску-Падляшскім машыне „Опель-амега".

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Першыя поспехі

Першым ста дням прэзідэнцтва быў прысвечаны традыцыйны брыфінг начальніка Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта Аляксандра Фядуты. Галоўным поспехам палічыў ён захаванне грамадзянскага міру, а таксама здольнасць на вышэйшым узроўні прадстаўляць дзяржаву з годнасцю, абараняючы яе эканамічныя і палітычныя інтарэсы. Гэта, на думку А. Фядуты, даказалі праведзеныя прэзідэнтам А. Лукашэнкам перамовы з кіраўнікамі і прадстаўнікамі вышэйшых эшалонаў улады суседніх краін. Вельмі важным палічыў прэс-сакратар прэзідэнта паварот эканомікі рэспублікі на сацыяльна арыентаваныя рэформы.

## Ушанаванне памерлых

Дзяды — дзень памяці, адзначаўся ва ўсёй рэспубліцы. У Курапатах, што недалёка Менска, прайшоў мітынг-рэквіем у памяць загінуўшых у гады сталінскіх рэпрэсій. На мітынгу выступілі Зянон Пазьняк, Сяргей Грахоўскі, Ніл Гілевіч і іншыя.

## Марудная прыватызацыя

Малая прыватызацыя ў Беларусі павінна ісці выключна за грошы; у адваротным выпадку прыватызацыя праз чэкі і маёмасць будзе праводзіцца каля 35 гадоў — такая думка прадстаўнікоў Беларускай гільдыі спецыялістаў па нерухомасці. Асноўную перашкоду ў справе прыватызацыі гільдыя бачыць у тым, што большая частка аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці аддаецца ў арэнду ў адпаведнасці з законам аб арэндзе. Дзяржава, аддаўшы маёмасць у карыстанне на працяглы тэрмін, аўтаматычна выключае яе са спіса прыватызацыйных аб'ектаў.

## Прыцягваецца замежны капітал

Першую прадукцыю выпусціла сумеснае беларуска-грэка-італьянскае прадпрыемства „Праталіна", утворанае на базе калгаса „Прагрэс" Гродзенскага раёна і некалькіх замежных фірмаў. Гэта — футравыя шапкі, футры і курткі з норак, якіх гадуюць на звераферме гаспадаркі. Акрамя сыравіны калгас выдзеліў памяшканне і рабочую сілу, а замежныя фірмы ўзялі на сябе пастаўку і мантаж асноўнага абсталявання і абучэнне кадраў.

## Канверсія ў ваенным гарадку

Вельмі мірную арыентацыю ўзяў ваенны гарадок Барсукі, размешчаны ў Клімавіцкім раёне. Пасля адыходу адсюль расейскай авіячасці Магілёўскае вытворчае прадпрыемства „Кварк" узяло тут у арэнду памяшканне і адкрыла ў ім швейны цэх. Работу атрымалі некалькі дзесяткаў жыхароў, якія засталіся без працы. Падрыхтаваны да пуску яшчэ адзін цэх па перапрацоўцы бульбы.

## Музычны фестываль

У чацвёрты раз праходзіў фестываль „Адраджэнне беларускай капэлы". Сёлета тэмай фестывалю быў беларускі музычны рамантызм. На канцэртах гучалі невядомыя шырокаму колу слухачоў творы беларускіх, рускіх і польскіх кампазітараў XIX стагоддзя. Гэта фартэпіянная музыка Напалеона Орды, камерная музыка Міхала Клеафаса Агінскага, Апалінарыя Концкага, Марыі Шымаsuccessfulноўскай, Станіслава Манюшкі і іншых кампазітараў. Сярод выканаўцаў — Акадэмічны сімфанічны аркестр, Акадэмічная харавая капэла імя Рыгора Шырмы, Леў Гарэлік, Віктар Скарабагатаў, Ігар Алоўнікаў.

## Парадкаванне прывілеяў

У рэспубліцы ажно 6,5 млн. чалавек карыстаецца ўсялякага роду льготамі. Навядзенне парадку ў гэтай галіне абяцаў прэзідэнт Лукашэнка, паколькі эканомiцы дзяржавы не пад сілу такая вялікая нагрузка. І вось з 1 лістапада адменена права бясплатнага праезду ў прыгарадскім аўтамабільным і чыгуначным транспарце асобам, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту. Па-ранейшаму такое права маюць толькі вучні, якія даязджаюць з сельскіх мясцовасцей у школы, і інваліды.

## Трагедыя ў Гімалаях

Драматычны вынік беларускай альпінісцкай экспедыцыі, што праходзіла ў Гімалаях — загінулі тры яе ўдзельнікі. Мэтай узыходжання была адна з найвышэйшых вяршыняў планеты — Канчэнджанга. У час аднаго з начлегаў на палатку, у якой знаходзіліся мінчанін Сяргей Жвірбля і Кацярына Іванова з Іркуцка, абрынулася гіганцкая ледзяная глыба, а калі да вяршыні заставалася меней за трыста метраў, са снежнай перамычкі сарвалася ў бездань балгарская альпіністка Іарданка Дзімітрава. Целы загінуўшых адшукаць не ўдалося. І усё ж аднаму з альпіністаў, лекару з Барысава Віктару Кульбячэнку, нягледзячы на складаныя метэаралагічныя ўмовы і атрымальныя адмаражэнні пальцаў, удалося ўзняцца на Канчэнджангу.

## Першы супермаркет

Першы сучасны супермаркет неўзабаве адкрыецца ў Гомелі. Пад яго перабудоўваецца былы рэстаран „Журавінка". Заснавальнікі шыкоўнай гандлёвай установы абяцаюць пастаўляць сюды з Германіі, Польшчы, Балгарыі, ЗША да 500 назваў прадуктаў, каля 300 відаў спіртных напіткаў і прамысловыя тавары.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- У Гайнаўцы вучацца беларускай мове.
- У Беластоку "атрасалі" студэнтаў-першакурснікаў.
- Яны змагаліся за Бацькаўшчыну — Алег Латышонак пра Слуцкае паўстанне.
- Юбілей бельскіх "Васілёчкаў".

# Трагічнае паломніцтва

*Працяг са стар. 1*

сшылі пузыр і пайшла інфекцыя. Трэба было ачышчаць сярэдзіну і нанава сшываць. Муж увесь час са мною гаварыў, я нават і не падумала, што такое штосьці з ім можа быць...

— У сераду (14 верасня) лекары сказалі, што ў яго выявіўся крывацёк і што яны не могуць гэтага затрымаць, ды яшчэ нырка перастала працаваць. „Не можам ізноў яго аперавацьь, — казалі, — пампэ пад нажом. Мусім так штосьці рабіць...”

— У чацвер (15 верасня), калі я заехала, сказалі, што пайшло ўжо тры літры мачы — будзе добра. Але ў мужа ўпаў ціск, патрэбная была кроў і донары, патрэбныя былі лякарствы, якіх ні ў бальніцы, ні ў аптэках не дастанеш. Я здабывала іх з хатніх прыватных аптэкаў праз знаёмых і праз знаёмых знаёмых. Не ў такіх аднак колькасцях, якіх патрабавала лячэнне...

— Апошні раз гаварыла я з ім у пятніцу, муж тады папрасіў нават піва. Былі ўжо хвіліны, што пачынаў ён клікаць маці: „Мамо, мамо, памажы, бо я буду ўміраць”, але я адзывалася і яму праходзіла. Застацца пры ім мне не дазволілі. Усю ноч я тэлефанавала ад знаёмай у бальніцу. Нумар усё быў заняты. Толькі а восьмай раніцы (субота, 17 верасня) я звязалася і мне сказалі, што перад трэцяй мясцовага часу ён памёр...

Сям'я Шпаковічаў намагалася, каб пры анатаміраванні прысутнічаў польскі лекар. Польскія дыпламаты на Украіне не змаглі аднак у гэтым дапамагчы — няма ў нас такой асобы, вам самім трэба арганізаваць прыезд лекара з Польшчы, сказалі. Пры секцы прысутнічаў бацька Мікалая Шпаковіча.

— Сядзь сабе, старычок, збоку, — папрасіў хірург, — не вытрымаеш гэтага.

— Вытрымаю, усё я ўжо вытрымаю. Абы толькі пратакол добра напісалі, па справядлівасці.

Абследаванне выявіла шматлікія сінякі на ўсім целе, найбольш на спіне, адбітыя ныркі, лопнуты мачавы пузыр. Пабой, адным словам, і то моцны — Мікалай Шпаковіч важыў прыблізна 100 кілаграмаў і быў немалога росту.

* * *

Пані Марыя Шпаковіч вярнулася ў Польшчу і пачала арганізаваць перавоз цела ў Белавежу. Неабходнымі ў гэтай справе сувязямі дапамог кіраўнік, у якога Мікалай Шпаковіч працаваў у Варшаве пры рэстаўрацыі Вялікага тэатра. Ён паведаміў Міністэрства замежных спраў. Дапамогі аднак ні адтуль, ні з кіеўскага пасольства Польшчы не аказалася. Пані Марыя зрабіла практычна ўсё сама. Фінансава ўспамаглі яе цесці і Управа гміны ў Белавежы. Лячэнне, дэфіцытныя лекі, перавоз нябожчыка, пахаванне — кошт усяго гэтага дайшоў да 50 мільёнаў, як яна падлічыла. Дэкларацыі з боку міністэрства, што яны зрабілі б усё на свой кошт, з'явіліся, калі было ўжо па справе. Па мужу пані Марыя будзе атрымліваць рэнту — мільён шэсцьсот тысяч.

**Аляксандр Максімюк**

# Другая маладосць „Рэбраў зубра”

Ужо падчас турыстычнага сезона 1979 г. шматлікія групы ці паасобныя турысты наведваючы Белавежскую пушчу маглі карыстацца цікавым, нетыповым шляхам названым „Рэбры зубра”, які цягнуўся 4 км праз падмоклае ўрочышча „Кнігаўка” і спыняўся ля паказнога запаведніка зуброў. Амаль на ўсёй сваёй даўжыні шлях меў вузкую кладку са шчыльна ўкладзеных упоперак дарогі вольхавых і асінавых жэрдак. Ішлося па іх сапраўды як па рэбрах. Ля кладкі, пры цікавейшых экземплярах дрэў знаходзіліся невялікія дошачкі з надпісамі, характарызуючымі паасобныя іх віды. Аўтарам і выканаўцам гэтага вельмі цікавага шляху быў ляснічы Яцэк Высмулэк.

Рэзкія атмасферныя ўмовы, нетрываласць драўніннага матэрыялу і некультурнасць некаторых турыстаў давялі да таго, што восенню 1983 г. кладка была зачынена і перададзена на рамонт, які цягнуўся гадамі, а хутчэй цягнуліся спрэчкі паміж ПТТК і Надлясніцтвам, хто мае гэты рамонт выканаць. Апошнім часам уваход (практычна нелегальны) на кладку пагражаў смельчаку вывіхам або нават паламаннем касцей. Але людзі рызыкавалі, а гэта найлепшы доказ атракцыйнасці шляху.

І, вось, нядаўна паявілася надзея, што „Рэбры зубра” ізноў пачнуць нармальна функцыяніраваць. Гаспадаром кладкі захацеў стаць шэф турыстычнага бюро „Гулівэр” у Гайнаўцы, Аляксей Грыгарук. Ён узяўся выканаць рамонт і гэтай восенню яго закончыў. Зразумела, што зараз, каб пакарыстацца шляхам, трэба будзе плаціць. Цана білетаў адпавядае цэнам, якія абавязваюць у аб'ектах Белавежскага нацыянальнага парку, значыць, яны па кішэні ўсім ахвотным.

Застаецца толькі павіншаваць А. Грыгарука з ініцыятывай, якая выратавала шлях ад поўнага знішчэння.

**Пётр Байко**

# Ільцэнцы ў Белавежы

22—28 кастрычніка г.г. Лясныя школы ў Белавежы гасцявалі групу з 15 жыхароў (у асноўным гімназічнай моладзі) невялікага горада Ільцэн, што ў Ніжняй Саксоніі (Нямеччына). Быў гэта візіт у адказ на знаходжанне ў тым жа горадзе ўлетку г.г. падобнай групы вучняў і настаўнікаў з Белавежы.

Нямецкія госці па дарозе ў Белавежу наведалі Варшаву, Траблінку і Цехановец. На месцы азнаёміліся з аб'ектамі Белавежскага нацыянальнага парку, адведалі галерэю Тамары Тарасевіч, назіралі лясную звярыну ў натуральным асяроддзі. Удзельнічалі таксама ў занятках, праведзеных у Лясных школах, гасцявалі ў двух мясцовых навуковых асяродках, дзе м. інш. заслухалі даклад д-ра Ежы Гутоўскага. Мелі яны сустрэчы з дырэктарам школы Тадэушам Палетылам і войтам Белавежскай гміны Аннай Байко, якая пазнаёміла гасцей з найважнейшымі зараз праблемамі ў гміне. Адзін дзень быў адведзены на непасрэдныя кантакты з белавежскімі сем'ямі — проста, паасобныя члены групы гасцявалі ў тых жа сем'яў. Зразумела, што ў час знаходжання не абылося без дыскатэкі і вогнішча ў лесе.

Наогул госці выязджалі з Белавежы (па дарозе заглянулі яшчэ ў Лясныя школы ў Жэпіне) з пазітыўнымі і незабыўнымі ўражаннямі. Усё паказвае, што сувязь паміж белавежцамі і ільцэнцамі замацуецца.

Знаходжанне немцаў у Польшчы падтрымаў фінансава фонд „Польска-нямецкае супрацоўніцтва моладзі”.

**Пётр Байко**

# Свята ў керамікаў

2 кастрычніка рабочы калектыў Керамічнай фабрыкі ў Старым Ляўкове святкаваў Дзень будаўніка. Такая тут традыцыя.

Ляўкоўскія керамікі, іх сем'і ды ўсе, хто хацеў удзельнічаць ва ўрачыстым мерапрыемстве, сабраліся ў новапабудаванай прыгожай святліцы. Дырэктар прадпрыемства Аляксандр Бандарук праінфармаваў пра дасягненні ляўкоўскага завода. Фабрыка мае збыт на цэглу і таму працуе не спыняючы прадукцыю. У ёй займаецца звыш 220 асоб, у тым ліку 63 жанчыны. Цагельня мае значны прыбытак. Рабочыя не наракаюць на плату. Ёсць „свая” святліца і свой хор „Цаглінкі” ды „свая” крама ля ўвахода на фабрыку, працуе дзіцячы сад (прадшколле). Завод пабудаваў жыллёвыя шматсямейныя блокі, кожнаму ахвотнаму выдзеліў зямельныя ўчасткі пад агарод. Аматары рыбалкі карыстаюцца завадскім ставам.

Прысутных керамікаў віншаваў са святам ды пажадаў ім далейшых поспехаў у працы і ў жыцці войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч.

Пасля адбылася багатая мастацкая частка. Выступілі маладзёжныя вакальна-танцавальныя калектывы з Гміннага асяродка культуры: „Душкі з пушкі” і „Прэтэкст”, ляўкоўскія „Цаглінкі” ды беластоцкае кабарэ „Страус”. Была таксама віктарына і атракцыйныя ўзнагароды.

Штогодняе святкаванне закончыла танцавальная вечарына. Шматлікія яе ўдзельнікі добра бавіліся да „белага рання”.

**Янка Ляўкоўскі**

# Яўрэі

Ацэньваецца, што ў Польшчы пражывае ад 5 да 15 тысяч яўрэяў. Гэта невялікая грамадскасць вядзе актыўную грамадскую, культурную і асветную дзейнасць. Найбольшай арганізацыяй з'яўляецца Грамадска-культурнае таварыства яўрэяў у Польшчы, якое ў межах нашай дзяржавы мае 15 аддзелаў і налічвае каля 3 тысяч членаў. Старшынёй Таварыства з'яўляецца Шымон Шурмей. Дзейнічаюць яшчэ і іншыя арганізацыі: Згуртаванне яўрэяў-ветэранаў і пакрыўджаных падчас II сусветнай вайны, Польская унія студэнтаў-яўрэяў, спартыўны клуб „Макабі” ды Згуртаванне „Дзеці Галакоста”. Сярод культурных і навуковых устаноў важную ролю адыгрываюць Яўрэйскі гістарычны інстытут ды прафесіянальны Яўрэйскі тэатр, які з'яўляецца адзінай культурнай установай такога тыпу ў Еўропе. У гэтым годзе ў Варшаве пачалі дзейнічаць яўрэйскія дзіцячы сад ды пачатковая школа.

**Андрэй Гаўрылюк**

# У ГАДАВІНУ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ

**Дарагія Суродзічы!**

З выпадку 74 Угодкаў Слуцкага Паўстання перасылаем Вам нашыя ўрачыстыя віншаванні з пажаданнямі.

Дзень 27 Лістапада 1920 года святкуецца беларусамі па ўсім вольным свеце, куды іх закінула нядоля за межы роднай Бацькаўшчыны. Чытаюцца тады Урачыстыя Акадэміі, адпраўляюцца Божыя Службы, пяюцца патрыятычныя песні.

З таго часу, як Случчакі аддалі свае жыццё на алтар роднай Бацькаўшчыны, мінула ўжо 74 гады, але памяць сярод беларусаў жыве.

Слуцкія паўстанцы не дачакаліся таго, аб чым марылі. Савецкая Расія і Польшча супольнымі сіламі зруйнавалі адбудаваную Беларускую Народную Рэспубліку, акупавалі яе ды падзялілі паміж сабою ганебным, гэтак званым, Рыжскім Трактатам у 1921 годзе. З таго часу прайшлі гады і акупанты Бацькаўшчыны не змаглі знішчыць волю і сілу беларусаў і ў наш час быў праяўлены народны ўздым падчас II сусветнае вайны.

Гэты аграмадны нацыянальны ўздым быў увенчаны арганізаваннем Ураду Беларускай Цэнтральнай Рады на чале з прэзідэнтам Р. Астроўскім і гістарычнага II Усебеларускага Кангрэсу, які падмацаваў і дапоўніў запаветы I Усебеларускага Кангрэсу.

Угодкі Слуцкага Паўстання — гэта сумная дата ў нашым календары нацыянальных святаў, бо гэта плач на вавілонскіх рэках. І гэты плач, сум і гора будзе працягвацца так доўга, пакуль Беларусь і ейны народ не будуць вольнымі. А зерне кінутае ў глебу беларускімі патрыётамі не згінула марна, што паміралі, каб жыла Бацькаўшчына, дало добры ўсход.

Герб Пагоня і Бел-чырвона-белы Сцяг лунае над будынкам Беларускага Урада ў сталіцы Менску, і маладая Беларусь крочыць у светлую будучыню.

Мы, беларусы Аўстраліі, жадаем Беларускаму Народу на Бацькаўшчыне вытрываласці ў ягоным змаганні за свае нацыянальныя правы. Мы верым у перамогу праўды. Мы верым, што Беларусь зойме свае ганаровае месца сярод свабодалюбівых народаў свету.

Няхай жыве Вольная і Незалежная Беларусь і яе змагарны Народ!

Жыве Беларусь!!!

**За Выканаўчы Камітэт**
**Федэральнай Рады**
**Беларускіх Арганізацый**
**у Аўстраліі**

**Паўла Гуз,**
**Сакратар**




## ВОСЕНЬ

Восень наступіла,
Стала халадней,
Новы шлях адкрыла:
Як нам жыць мудрэй.
Каб мы не смуціліся,
Што душа баліць,
З кожным прымырыліся.
Сэрцы аднавіць!
Дрэвы заміраюць,
Падаюць лісты,
Сцежкі пакрываюць,
Платы і масты...
Вецер ачышчае
Ўсе нашы дарогі,
Часам падвявае
Пад нашы парогі.
Селянін пасеяў,
За бульбу узяўся...
Турботы развеяў,
На духу падняўся.
Птушкі адлятаюць
У цёплыя краі.
Куды ляцець — знаюць
І вернуцца ў маі.

**Мікалай Панфілюк**

# Гісторыя Беларусі ў дэмаграфіі

Кніжка Пятра Эбергарта[1] пра перамены нацыянальнага складу насельніцтва Беларусі датычыць надзвычайна важнай праблемы. Мала пытанняў у гісторыі і палітыцы настолькі абрасло міфамі, як колькасныя адносіны паміж нацыянальнасцямі, якія насялялі і насяляюць тэрыторыю Беларусі. Перш за ўсё тычыцца гэта колькасці беларусаў і палякаў.

Пётр Эбергарт разглядае гэтыя адносіны ў межах сучаснай Рэспублікі Беларусь, і такі падыход поўнасцю апраўданы. Вядома, не заўжды тэрыторыі адміністрацыйных адзінак адпавядаюць сучасным падзелам, але хібнасць ў падліках тут невялікая[2].

Больш сумнявальным з'яўляецца аснова прынятая аўтарам адносна падзелу на палякаў і беларусаў згодна з падзелам на каталікаў і праваслаўных. Гэта праўда, што гістарычны працэс пайшоў так, што прыгнятальная большасць беларускамоўных каталікаў выбрала польскую нацыянальнасць. З другога боку, мы ж не ведаем, як ішоў бы працэс нацыянальнага ўсведамлення каталікаў у выпадку, калі б не пала расійская імперыя і Польшча не захапіла заходніх абшараў Беларусі на адно пакаленне. Трэба ж памятаць і пра тое, што беларускі каталіцкі рух быў перад першай сусветнай вайной на пад'ёме, а да беларускай нацыянальнасці пачалі прызнавацца нават прадстаўнікі магнацкіх радзінаў: Радзівілаў, Скірмунтаў і Друцкіх-Любецкіх.

Тым не менш, поўнасцю згаджаюся з П. Эбергартам у тым, што мова не вырашае аб нацыянальнасці яе носьбіта. Выдатна відаць гэта як у выбары польскай нацыянальнасці беларускамоўнымі каталікамі, так і ў выбары беларускай нацыянальнасці насельніцтвам Заходняга Палесся насуперак таму, што царскія ўлады лічылі яго ўкраінскамоўным. П. Эбергарт пішучы аб гэтай праблеме, закранае таксама сітуацыю на сённяшняй Беласточчыне: „Podobna kwestia pojawiła się w południowo-wschodniej Białostocczyźnie, należącej do Polski. Podział ludności na Ukraińców i Białorusinów dokonywany jest aktualnie przez uczonych lingwistów. Ludność prawosławna uważająca się za „miejscową" lub „tutejszą", która żyła przez pokolenia wyraźnie się nie identyfikując narodowościowo, względnie uważająca się od dłuższego czasu, to znaczy od momentu swego samookreślenia, za białoruską, nagle zostaje uświadomiona, że na podstawie „akania" lub „okania" względnie „dyspalatalizacji spółgłosek zębowych" przed „i" lub przed „e" powinna stać się ludnością ukraińską. Lingwiści określają linię podziału fonetycznych dialektów i na podstawie tego zaliczają wsie do tej lub innej narodowości, żądając od mieszkańców dopasowania się do tego rozgraniczenia (...)".

Паколькі не можам даведацца, як працэс набывання нацыянальнай свядомасці беларускамоўнымі каталікамі ішоў бы ў іншай палітычнай сітуацыі, можна згадзіцца з аўтарам кніжкі, што колькасці каталікаў і палякаў у Беларусі амаль супадаюць.

Улічыўшы гэта, можна наглядаць за аўтарам працэс пераменаў нацыянальнага складу насельніцтва Беларусі на працягу амаль стагоддзя, у 1897—1989 гадах. П. Эбергарт, апісваючы гэтыя перамены, падводзіць вынікі шматлікіх расійскіх, польскіх і савецкіх перапісаў, праведзеных на тэрыторыі Беларусі ў згаданым перыядзе.

У сваіх падліках Эбергарт з'яўляецца добрасумленным даследчыкам, хаця не пазбягае і памылак, часам нават сур'ёзных, у каментарыі да гэтых падлікаў. На маю думку, гэтыя памылкі вынікаюць перш за ўсё з нястачы гістарычных ведаў у аўтара, які па прафесіі географ.

Суцэльнай памылкай з'яўляецца трэці раздзел гэтай працы, прысвечаны перыяду I сусветнай вайны. Аўтар безагаворачна прымае вынікі перапісу праведзенага ў 1916 г. нямецкімі ўладамі. Перапіс гэты паказаў прыгнятальную перавагу палякаў на значных абшарах акупаванай немцамі тэрыторыі.

Гэтая перавага тлумачыцца вельмі проста. Беларуске насельніцтва згаданай тэрыторыі знаходзілася ў той час у глыбіні Расіі, у г.зв. „бежанстве". З самой Гродзенскай губерні зарэгістраваных было больш за 750600 „бежанцаў", а гэта напэўна не ўсе. „Бежанцы" пачалі вяртацца дадому толькі ў 1918 г. і да 1919 г., калі адбыўся першы польскі перапіс, паспела вярнуцца іх толькі частка.

Пераносіцца гэта і на наступныя гады. Эбергарт толькі пры нагодзе разгляду вынікаў перапісу ў 1931 г. мімаходзь успамінае аб рэпатрыяцыі беларусаў.

Паводле У. П. Палуяна, у 1918—1924 г.г. у Заходнюю Беларусь вярнуліся каля 700 тыс. беларусаў. Гэта значыць, што каля паловы „бежанцаў" ніколі не вярнуліся дахаты. Не ўлічваючы гэтай дэмаграфічнай катастрофы, нічога не зразумеем ні ў дэмаграфіі, ні палітычнай сітуацыі ў Заходняй Беларусі ў I сусветную вайну і пасля яе.

Хопіць параўнаць вынікі перапісаў у 1897 г. і 1921 г. паводле веравызнання для двух паветаў. У Гродзенскім павеце за гэты час працэнт праваслаўных паменшаў з 51,7% на 37,4%, а каталікаў пабольшаў з 27,2% на 41,1%. У Ваўкавыскім — працэнт праваслаўных паў з 57,9% на 41,6%, а каталікаў узрос з 29,2% на 46,2%.

На жаль, Эбергарт моўчкі абыходзіць праблему штучнай, выкліканай вялікадзяржаўнай расійскай палітыкай перамены нацыянальнага складу насельніцтва Заходняй Беларусі ў час I сусветнай вайны.

Няведанне гісторыі адбіваецца і ў такіх сцвярджэннях: „Należy tu wyraźnie zaznaczyć, że w Polsce istniała pełna wolność religijna. Władze administracyjne nie ingerowały w sprawy wewnętrzne Kościołów. Działały wszystkie obrządki chrześcijańskie (prawosławie, katolicyzm, protestantyzm). Były również próby oddolnego odtworzenia Kościoła greckokatolickiego, ale nie odegrało to większego znaczenia. Równouprawnienie obejmowało także wyznawców judaizmu".

У далейшым аўтар пазбягае падобных памылак, а вынікі ягоных даследаванняў дазваляюць сцвердзіць наступнае:

Па-першае, дагэтуль больш як у тры разы перабольшвалася колькасць ахвяраў сталінскага тэрору. У сапраўднасці было іх менш за 600 тысяч. З прадстаўленых Эбергартам лікаў вынікае таксама, што да 1937 г. знішчаліся перш за ўсё беларусы і рускія, а толькі пасля 1937 г. палякі.

Па-другое, таксама ў тры разы перабольшваюцца звычайна страты насельніцтва Беларусі ад гітлераўскага тэрору. Эбергарт не спрабуе палічыць іх дакладна, але з прыведзеных ім статыстык вынікае, што блізкія праўды былі савецкія спецыялісты, якія падалі лік звыш 750 тысяч гэтых ахвяраў[3]. Прытым немцамі знішчаліся перш за ўсё яўрэі, беларусы пацярпелі адносна мала.

Па-трэцяе, Эбергарт абвяргае міфы аб аграмаднай колькасці каталікаў у Беларусі. Як прыклад пашырэння міфаў аўтар падае працу М. Іванова і З. Вінніцкага, якія ў сваіх псеўданавуковых даследаваннях дайшлі да 2,5 млн. каталікаў у Беларусі.

Эбергарт таксама перабольшвае колькасць каталікаў у Беларусі, але зводзіць яе да больш прымальных памераў амаль мільёна. Робіць гэта прытым такім чынам, што лёгка даказаць ягоную памылку на аснове яго собскіх даследаванняў.

Эбергарт спачатку прымае, што сапраўдная колькасць палякаў перавышае афіцыйныя даныя на палову і такім чынам атрымоўваецца 600 тысяч палякаў. Пасля сцвярджае, што колькасць каталікаў на 20—30% перавышае колькасць палякаў і такім чынам даходзіць да амаль мільёна. На маю думку, гэтых 20—30% каталікаў-беларусаў памяшчаецца ўжо ў атрыманым Эбергартам прыблізным ліку палякаў — 600 тыс. Гэты лік упісваецца таксама ў даныя, прыведзеныя праваслаўным мітрапалітам Філарэтам[4], паводле якога ў Беларусі жыве 500 тыс. каталікаў і каталіцкім біскупам Т. Кандрусевічам, які лік каталікоў акрэслівае на 700 тысяч.

Падводзячы вынікі даследаванняў Пятра Эбергарта можна сцвердзіць, што за мінулае стагоддзе беларусы замацаваліся як колькасна пануючая нацыя ў сваёй краіне. Асноўнай пераменай было знікненне яўрэяў у выніку гітлераўскага генацыду і эміграцыі ў Расію. Месца яўрэяў занялі расійцы. На палову паменшыўся працэнт каталікаў.

Нават калі ўсіх каталікаў лічыць палякамі, можна згадзіцца з Эбергартам, што ў сэнсе дэмаграфічным польская праблема ў Беларусі (максімальна 6% ад агулу насельніцтва) не існуе.

Шкада толькі, што Эбергарт пры нагодзе разважанняў над лёсам польскай меншасці ў Беларусі прабуе падкінуць акрэсленне „zagłada" ў адносінах да гэтага лёсу. Робіць гэта наступным чынам: „O skali zagłady świadczy fakt, że w rejonie dzierżyńskim (kiejdanowskim), w którym na przełomie lat dwudziestych i trzydziestych utworzono autonomiczny obwód polski, zostało 2 955 Polaków, którzy stanowią 5% zaludnienia rejonu" (стар. 149).

Раней сам падае, што ў час польскай аўтаноміі ў Дзяржынскім (Койдаsuccеўскім, а не, як піша, Кейданоўскім) раёне палякаў было 5% (стар. 90).

Было 5% і засталося 5%, дык якая тут „zagłada"? Колькасць палякаў у Беларусі ў агульнасці паменшылася ў выніку дэпартацыі (якой падлягала насельніцтва ў значнай ступені наплывовае: вайскоўцы, асаднікі, адміністрацыя; да гэтага не ўсе яны загінулі), рэпатрыяцыі і асіміляцыі, а гэта зусім не „zagłada", якая абазначае фізічнае знішчэнне.

Падобная маніпуляцыя эмоцыямі чытача нягодная сур'ёзнага даследчыка. Тым не менш, працу Пятра Эбергарта можна лічыць здабыткам навукі. Стварае яна салідны фундамент да дыскусіі аб гісторыі Беларусі, бачанай праз прызму дэмаграфіі.

**Алег Латышонак**

1. Piotr Eberhardt, Przemiany narodowościowe na Białorusi, Warszawa 1994.
2. Непатрэбна толькі аўтар прыдумаў назву „Ziemia Białoruska" ў адносінах да часоў ранейшых за стварэнне Беларусі ў сучасных межах. У галіне словаўтварэнняаднатуем таксама акрэсленне „białorutynizacja" (sic!), якое мае абазначаць беларусізацыю.
3. Ю. Туронак, „Кожны чацвёрты" і Курапаты, Кантакт н-р 1, 1989 г., стар. 20.
4. А. Жук, Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы, Кантакт н-р 1(3), люты 1990 г., стар. 5.

# НЕ ТАК ДРЭННА

Нейкім песімізмам павеяла апошнім часам на Усходняй Сцяне. Хваля актыўнасці, якая падымалася пры канцы васьмідзесятых гадоў недзе адплыла, а з ёю большасць нашых самых надзейных хлопцаў. Цяпер сталі яны сур'ёзнымі дзялкамі, бізнесменамі, гарантамі агульнага прагрэсу, надзеяй беларускага грамадства.

Змоўклі так актыўныя на пачатку дзевяностых гадоў беларускія арганізацыі. Адчайныя спробы маладых дзеячаў ажывіць беларускую нацыянальную ідэю толькі часткова закончыліся паспяхова.

У галіне палітыкі часцей мы прайгравалі, чым былі ў выйгрышы. Кампраметуючым вынікам канчаліся ўсе намаганні дабіцца свайго прадстаўніка ў парламенце РП. Лепей было ў выбарах у самаўрады. БДА праўдападобна не стрымала нападкаў з боку „сваіх" і чужых і хіба зышла ў падполле. Шкада, бо патрэбна яна і беларусам, і палякам. Грамадства без палітычнай эліты паводзіць сябе як сянкевічоўская „чэрнь".

Пра гаспадарку лепш не гаварыць. Толькі невялікі працэнт грамадства не мае падстаў для наракання. Большасць як бы з малітоўным экстазам успамінае камуністычны час і ў кожных наступных выбарах аддасць свае галасы на сённяшняга Генеральнага пракурора.

Традыцыйна найлепш у нас было з надбудовай. Апрача школьніцтва, якое, здаецца, ужо перастала існаваць у сямідзесятых гадах, у іншых галінах надбудовы відаць нават нейкі прагрэс. Асаблівa песня — што можна пачуць у радыёперадачах „Пад знакам Пагоні" — перажывае цяпер рэнесанс. Выканаўцы фальклорнай музыкі маюць урэшце нагоду выступаць перад публікай амаль кожную нядзелю. Моладзь ужо традыцыйна мае сваё „Басовішча", а апошнім часам узнікла нешта новае — фестываль „Бардаўская восень".

Яшчэ лепш справа выглядае, калі звернем увагу на беларускае пісьменніцтва. Хтось палічыў, што ў 1993 годзе польскія беларусы выдалі 16 кніжак. Неверагодна?! Калісь у цэрквах побач свечак ляжалі толькі „Праваслаўны каляндар" ды „Царкоўны веснік", цяпер — 4 ці 5 свежанькіх штомесячных часопісаў. Праўда, усе яны на дзяржаўнай мове, але прагрэс нейкі ёсць. У гэтым годзе з'явіўся салідны навуковы беларускі гістарычны часопіс. Яго незвычайнасць заключаецца ў тым, што беларусы, якім закрыты дзверы ў беластоцкія навуковыя ўстановы, змаглі выдаць зборнік сваіх доследаў на ўзроўні куды вышэйшым, чым падобныя выданні мясцовага Філіяла Варшаўскага універсітэта, не ўспамінаючы ўжо пра квартальнік Беластоцкага навуковага таварыства „Białostocczyzna". Трымаючы ў руках зборнік навуковых штукарстваў, якім з'яўляецца „Białostocczyzna" (н-р 2), і „Беларускі гістарычны сшытак" адчуваецца нейкае задавальненне. Беларусы пачалі самі пісаць сваю гісторыю. Не міфалогію пад чужым кантролем і па заказу, але гісторыю. Ёсць яшчэ ў нас нейкія жыццяздольныя сілы, каб трываць пры сваёй культуры, нацыянальных вартасцях.

У мінулым стагоддзі і ў большай частцы нашага беларускасць тут на Беласточчыне была выключна плебейская, фальклорная, здамінаваная мужыцкай псіхікай. Цяпер стаецца яна штораз больш элітарнай. Пішучы пра элітарнасць, маю на ўвазе не грамадскую ці інтэлектуальную эліту. Не, думаю тут пра тых, якія пачуцце беларускасці ўспрымаюць у катэгорыі этыкі. Нягледзячы на акалічнасці, яны ёсць і будуць беларусамі. Шмат з нашага асяроддзя ўсялякіх прафесараў, дацэнтаў, пісьменнікаў, бізнесменаў, якія за сімвалічны банан ці долар гатовы прадаць свой нацыянальны гонар, або са страху кідаць мільёны на пабудову помнікаў для наглядальнікаў за нашым рэзерватам. Калісь амаль усе так сябе паводзілі. Некаторыя таварышы ўраднікі ў камітэтах партыі мянялі нават імёны сваім пакойным бацькам, каб толькі пайсці вышэй. Была і ў таго пакалення свая рамантыка — містычнае адчуванне сацыялізму і непрыхільнасць да ўсяго вальнадумства. Але добра, што ў канцы і ў нас з'явілася новая хваля рацыяналістаў. Шкада толькі, што яна так моцна спозненая. Але мы заўсёды спазняліся.

**Васіль Кургановіч**

# ЯШЧЭ ПРА БЕЛАРУСКАЕ ШКОЛЬНІЦТВА

Калі я нядаўна пісаў пра канферэнцыю ў Бельску, выказаў тады спадзяванне, што беларускае асяроддзе знойдзе сілу, каб забыцца на старыя сваркі і пачаць сумесную працу. Час для гэтага ўжо апошні, а вонкавыя абставіны якраз спрыяльныя. Перш за ўсё пачынае быць прыкметнай існаванне беларускай дзяржавы, якой справы беларусаў Польшчы не абыякавыя.

Пачынаючы з 23 кастрычніка 1994 г. цэлы працоўны тыдзень правяла ў Беласточчыне Сумесная польска-беларуская камісія па справах школьніцтва для польскай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Беларусь і беларускай нацыянальнай меншасці ў Рэспубліцы Польшча.

Як вядома, беларускае асяроддзе ў Польшчы даведалася аб існаванні гэтай камісіі ад беларускага боку і накіравала ў сувязі з гэтым адмысловы пратэст у Міністэрства нацыянальнай адукацыі.

Беларускія дзеячы спрабавалі нават выпрацаваць супольную грамадскую платформу ў адносінах да гэтай камісіі і нават быццам бы і выпрацавалі, але платформа гэтая трэснула ўжо на другі дзень.

Спадарыня Тамара Русачык, якая яшчэ ў суботу распавядала ў Бельску аб тым, як дрэнна да яе і беларускага школьніцтва ставяцца кураторыйныя ўлады, ужо ў аўторак расхвальвала ў гэтым жа Бельску ў прысутнасці членаў камісіі беластоцкага куратара Пётра Літэрмуса за яго апеку над беларускім школьніцтвам.

На другі дзень сп. Літэрмус зняты быў са сваёй пасады. Прычыны адстаўкі грамадству не былі праяснены.

Адносна нашых спраў можна толькі адзначыць, што спосаб, у які беластоцкая Куратория падрыхтавала працы Сумеснай міністэрскай камісіі, інакш як скандальным назваць нельга. На апошні дзень камісіі, вывезенай недзе ў Белавежскую пушчу, не была забяспечаная магчымасць напісаць пратакол. У выніку таго, пасля вяртання камісіі ў Беласток, пратакол ствараўся да вечара. Журналістаў склікалі на прэс-канферэнцыю на гадзіну 14.30, а дачакаліся мы вынікаў нарадаў толькі праз чатыры гадзіны.

Да таго ніхто не паведаміў польскамоўныя газеты, быццам бы іх чытачоў падобныя справы не цікавілі. Журналістка з „Кур'ера Паранняга", якая пра прэс-канферэнцыю даведалася па чутках і геройчна дачакала да вечара, так і не даведалася, чаму яе газету пра прэс-канферэнцыю не паведамілі.

Я з радыёжурналістам Юркам Ляшчынскім дарма прабаваў даведацца, чаму не былі запрошаны прадстаўнікі беларускай меншасці да працы ў камісіі. Адказ быў такі, што былі запрошаны. Хто ў панядзелак вечарам па тэлефоне, хто іншай парою, але ўсё пасля гэтага, як у польскіх штодзённіках з'явіліся тэксты аб гэтым, што ніхто не быў запрошаны. Цяжка таксама было даведацца, што вырашыла камісія, бо не хапіла часу на адказы — госці мусілі ад'язджаць.

З размоваў, прыведзеных мімаходзь у час стварэння пратакола, я зразумеў, што быццам бы абяцана была пабудова новага будынка для ліцэя ў Бельску і перадача старога будынка Падставовай школе н-р 3. Дырэктар „тройкі", Васіль Ляшчынскі, запытаны мною праз некалькі дзён, заявіў, што нічога з гэтага не разумее. На яго думку, Бельску не патрэбна будова новага ліцэя аддзеленага ад „тройкі", бо толькі злучаныя як дагэтуль гэтыя школы змогуць сумесна перэтрываць. Такім чынам патрэбна разбудова ліцэя і „тройкі", а не іх раздзяленне. Як не глядзі, справа перадачы „тройцы" будынка былога камітэта ПАРП, у якім функцыянуе штучна створаная школа н-р 5, зноў адтэрміноўваецца. І гэта адзіны канкрэт.

Маю надзею, што беларускі бок камісіі ўсё-такі здолеў разабрацца ў тым, што з нашым няшчасным школьніцтвам адбываецца.

Куратар Літэрмус, які зрабіў усё, каб не аддаць „тройцы" будынку камітэта, адышоў на заслужаны адпачынак. Новы куратар, Тадэуш Калюта — вядомы як чалавек спакойны і добрасумленны, дык ёсць надзея, што дачыненні беларускага руху з Куратарыяй будуць выглядаць лепей, як пры яго папярэдніку.

Наогул здаецца, што справа і так не ў куратары, але ў нас саміх. Вось склікаць быў пленум ГП БГКТ, прысвечаны пачатку новага культурнага і асветніцкага года. Хаця і не запрошаны, зайшоў я ў будынак на Варшаўскай з надзеяй даведацца, як бэгэкатоўскае асяроддзе рыхтуецца да змагання за беларускае школьніцтва.

На жаль, пра школьніцтва дыскуталася мала. Сябры пленума і так ведалі, хто вінаваты заняпаду школьніцтва. Вінавата, вядома, „Ніва", якая толькі і аплёўвае беларускае школьніцтва. Мікалай Гапанюк, настаўнік з Сакоў, сцвердзіў, што яго школу аплявала журналістка „Нівы", якой не падабаецца тое, што вучні на перапынках гавораць па-польску, ды і настаўнікі на гэтай мове звяртаюцца да дзяцей. Наколькі я зразумеў сп. Гапанюка, паводле яго, калі б настаўнікі гаварылі да дзяцей па-беларуску, гэта была б праява беларускага нацыяналізму.

Для таго, каб гаварыць па-беларуску, ёсць урокі беларускай мовы.

Міколу Гапанюка падтрымала дырэктар Агульнаадукацыйнага ліцэя ім. Б. Тарашкевіча ў Бельску, спадарыня Зінаіда Навіцкая. Паводле яе, „Ніва" плюе і на бельскі Белліцэй. Наколькі я зразумеў, спадарыня дырэктар надалей не можа дараваць „Ніве" таго, што Віктар Швед напісаў (а раней сказаў) з нагоды з'езду выпускнікоў.

Я разумею, што ўсё вышэйнапісанае таксама будзе лічыцца аплёўваннем, але што тут зробіш?!

**Алег Латышонак**

# Адспявалі барды

*Працяг са стар. 1*

падобнае на „звяз" — зразумела, Звяз беларускай моладзі. Крыстафора Сяськевіча ўзнагародзіў Лёнік Тарасэвіч за тое, што той не пабаяўся глянуць рэальна на жыццё — паказаў яго такім, якім яно ёсць.

У асобе Алеся Камоцкага адчуваўся прафесіяналіст, якому на сола-гітары дапамагаў Алег Змушко. Шкада толькі, што Алесь несур'ёзна паставіўся да канцэрта ў Бельску. Затое Алег Змушко, як прафесійны музыка („іграе ў найлепшым менскім рэстаране „Стары горад" — анансаваў яго вядучы Юрка Ляшчынскі) не меў ніякіх праблем падключыцца да іншага барда — Воўкі Кандрыкінскага. І дапамог яму ўзяць адну з узнагарод — ад Бацькоўскай рады пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Воўка спяваў добра і поўнасцю на ўзнагароду заслужыў.

Ну і Віктар Шалкевіч! Для мяне — як заўсёды — бомба! Віктар, як ніхто, разумее публіку, адчувае яе патрэбы. Хаця ў кулуарах абяцаў выключна новыя творы, адчуўшы просьбу залы, праспяваў лепшыя старыя хіты. Але новыя песні таксама былі і некаторыя з іх напэўна набудуць у нас шырэйшую вядомасць. Гэта, хаця б „Патрыятычнае танга „Цнота", „Чэсё і Мецё", „Генік з Друскенік" ці „Сыны кухаркі". Віктар Шалкевіч атрымаў узнагароду „Гран-пры" бурмістра Бельска-Падляшскага.

Узнагароду Беластоцкага радыё — запіс у студыі — атрымаў беластоцкі „Белы сон". Гэта ўжо трэцяя ўзнагарода такога тыпу на нашых мерапрыемствах і трэба спадзявацца, што ўрэшце (упершыню) будзе выкарыстана. Галасы Марты Драль і Янкі Хохі, сола-гітара Яўгена Маліноўскага і ўдарныя інструменты Данеля Матыскока вартыя таго. Сваю паэтычную ўзнагароду „Беламу сну" дала таксама Надзея Артымовіч. Думаю, што ў гэтым выпадку музыцы дапамаглі таксама словы іхніх песень аўтарства Віктара Стахвюка. Калі дадаць, што Віктар яшчэ і менеджэр „Белага сну" — разам са сваёй жонкай Альжбетай — дык явіцца ён нам добрым бацькам гэтага гурту.

У адрозненні ад суботняга, нядзельны канцэрт атрымаўся вельмі добры. Выступілі ў ім толькі ўзнагароджаныя. Канцэрт, з усімі бісамі, не зацягнуўся звыш дзвюх гадзін. Сярод публікі сядзелі высокапастаўленыя асобы ў цяперашніх уладах Бельска — з бурмістрам Андрэем Сцепанюком і старшынёй Гарадской рады Васілём Ляшчынскім — што само сабой падымала ранг імпрэзы. Адным словам, было вельмі ўрачыста.

Нядзельны канцэрт зацёр усе скрыгаты з першага дня. На гэты раз ужо ніхто не выходзіў. І думаю, што, калі праз год будзе падобны фестываль, яны зноў прыдуць.

**Мікола Ваўранюк**

## ЗА ЧЫСЦІНЮ МОВЫ

Добра сталася, што ў „Ніве" паяўляюцца допісы на тэму беларускай мовы. У 40 (2003) нумары быў змешчаны артыкул Мікалая Варанецкага „Ці лёгка гаварыць па-беларуску?", які даказвае, што нялёгка, калі нават журналістам удаецца рабіць памылкі. Можна згадзіцца, што слова „выключэнне" гэта не „ўзнагарода". Аднак цяжка згадзіцца з крытыкай ужывання слова **Менск** замест *Мінск*. Мяне асабіста цешыць факт, што ўсё часцей нашы журналісты ўжываюць слова **Менск**, а гэта згодна з картай Беларусі XVI стагоддзя (БСЭ, т. 12, стар. 100). Там менавіта бачым: **Менск, Бярэсце, Гародна**, а не Мінск, Брэст ці Гродна. Добра, што Мікалай Варанецкі закрануў гэтае пытанне. Можа нашы беларускія спецыялістымовазнаўцы дадуць станоўчую ацэнку. Чытачы былі б вельмі ўдзячны.

**Францішак Берніковіч**

# Ліцэй асаблівай пашаны

З-за незайздроснага матэрыяльнага становішча маёй сям'і не мог я ўдзельнічаць у IV З'ездзе выпускнікоў Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. Перажыў я гэта належна... Усё вярнулася б на ўласцівыя рэйкі, каб не трывога паднятая на з'ездзе і ў беларускамоўнай беластоцкай прэсе адносна стану нацыянальнай духоўнасці ў маёй даўняй школе.

У сувязі з Днём настаўніка ў Бельскім доме культуры мне пашанцавала пабачыць і паслухаць паэтычна-музычную з'ездаўскую праграму у выкананні вучняў ліцэя. Падчас гадзіннага канцэрта былі такія моманты, калі амаль як дзіця плакаў я па забраным або страчаным назаўсёды, непаўторным і найважнейшым. Няўмела хустачкай ды рукой хаваў слёзы ад ліцэістаў, сярод якіх палова — гэта мае нядаўнія вучні. Дарагая моладзь ліцэя — цвет маладога беларускага пакалення, вельмі паважаныя педагогі, многапаважаная пані дырэктар, шчыра дзякую за запрашэнне і назаўсёды памятную, глыбока кранаючую сэрца хвіліну з Вамі!

А які сёння наш ліцэй?.. У будынку бельскага Беларускага ліцэя заўжды прыкладны парадак, вонкавая святочнасць, свая ўнутраная гармонія, свой клімат. Ёсць дастатковая дыдактычная база, ёсць і надбудова — беларускі нацыянальны змест школы. У кантактах з настаўнікамі і вучнямі адчуваецца цішыню звычайнай дабрыні, павагу да кожнай асобы.

Багаццем ліцэя заўсёды была і ёсць незвычайная амбіцыя педагогаў і вучняў. У атмасферы настойлівай працы, у паслядоўнасці і мэтанакіраванасці на паверхню жыцця выносяцца тут таленты і „людскія дыяменты", якіх праўдападобна патапталі б іншыя. Менавіта таму Ліцэй імя Тарашкевіча распараджаецца самым вялікім капіталам — удзячнасцю сотняў яго-ных абітурыентаў.

Крытычныя выступленні некаторых сяброў і іншых асоб, накіраваныя ў адрас ліцэя, лічу беспадстаўнымі, нетактоўнымі, непрадуманымі і вельмі крыўднымі для маіх многапаважаных прафесараў і маладых настаўнікаў, для беларускага асяроддзя ў Бельску.

У кожнай складанай акалічнасці патрэбная ёсць дробка добразычлівасці, крышынка прыстойнасці. Не раз трэба глыбока задумацца над вынікам публічнай дэманстрацыі поглядаў. Неканструктыўная, блізарукая крытыка часта вядзе да дэструкцыі і самаедства. Таму менавіта трэба аналізаваць і душыць шкодныя справе эмоцыі, нават тыя, што нараджаюцца ў глыбіні сэрца.

Звяртаючыся да шырокага вобразу мінулага часу, які з'яўляецца падставай нашага „тут і цяпер" жыцця-быцця, ды абстрагуючы ад вышэйнапісанага (у тым ліку ад канкрэтных асоб), мусім сказаць, што гістарычны лёс беларусаў Беласточчыны, асабліва ў XX стагоддзі, мае свой глыбокі, хоць найчасцей ціхі драматызм. Ідучы ў гіпнатычным маршы, а пераважна ў бязладдзі, мы ў значнай меры страцілі пачуццё розніц між праўдай і фальшам, між вернасцю і здрадай, між гераічнасцю і канфармізмам. У канцы веку і тысячагоддзя дайшлі да пасткі крайніх немагчымасцяў. Да нуля звужаецца своеасаблівая нацыянальная культура, напружваецца ўнутрыплямянная палярызацыя адносін да роднага, пашыраецца працэс дэгуманізацыі міжлюдскіх кантактаў, у глыбокім рэгрэсе гаспадарка рэгіёна. Трэба нарэшце адкрыта прамовіць, што ворагамі ды варварамі для беларускага слова і традыцыі, для згоднага польска-беларускага супрацоўніцтва ўсё часцей і часцей становяцца свае ўсякай масці паўінтэлігенты і цынікі, сервілісты і богапрадаўцы. Нам усім нельга не баяцца такіх суайчыннікаў!

Жывем у часы, калі цяжка на гатовыя рэцэпты. У сапраўднасці ніхто іх не мае. Не заплюшчвайма аднак базлівага вачэй перад жорсткай рэальнасцю! Перш за ўсё патрэбна ўсеагульная рэфлексія, дзякуючы якой магчымай стане свядомасць патрэбы арганізаванага творчага дзеяння, грамадскай актыўнасці з добрымі намерамі. Толькі тады праадужым беларускае існаванне ў межах польскай дзяржавы.

Калі думаю пра Беларускі ліцэй у Бельску-Падляшскім, ахоплівае мяне зараз такое інтуітыўнае прадчуванне: гэта школа, мабыць, апошняя з усіх пачатковых і сярэдніх школ усходняй Беласточчыны яшчэ доўга-доўга захавае ў сваіх мурах матчыну беларускую мову. Школа будзе трываць з найвялікшай годнасцю. Быццам маяк у імгле беспамяцтва. Або як свяцілішча, у якім прыйдзецца вартаваць можа апошнюю іскрынку надзеі.

**Юры Баена**

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК
## 24

### Дзік і госць

У сабакі не заўважалася асаблівай непрыхільнасці да пахаў, што звычайна суправаджаюць вячэру з гасцямі. Ён проста сядзеў пры стале каля правай нагі ў Гаспадара і сачыў за прысутнымі. Калі тосты іх рабіліся занадта гучнымі, а рухі звыш рэзкімі і вольнымі, ён запытальна пазіраў на Гаспадара — што рабіць, а здаралася, сам заклікаў да парадку парушальніка спакою, без папытання.

Мы наогул ведалі, што жывёлы не толькі не схільны ўжываць розныя наліўкі і настойкі, але ўнікаюць іх водару. Пакрысе здагадкі пра адносіны да падобнага роду трункаў развіліся з клубка ў нітачку, яна і вывела на пэўны след.

Аднойчы да нас завітаў мілы госць, добры чалавек. Малады яшчэ здаравец, ён быў у вясёлым настроі. Дзік падаў яму лапу, гэта здаралася не дужа часта і выяўляла бясспрэчную сімпатыю да ўдастоенага такой сабачай ласкі, не меншай як прыпаданне да пантоплі ў рымскага папы.

Госць усё ж не здаволіўся і запрапанаваў сабаку падужацца. Прызнацца, я збаяўся: барукание можа скончыцца сумна для гасцёвых портак. Але не паспеў Дзік адскочыцца, як быў схоплены ў жалезныя абдымкі і сціснуты так, што, здавалася, затрашчалі рэбры. Сабака ўпёрся госцю лапамі ў грудзі, схіліўся дастаць твар зубамі. Нарэшце, неяк вылузаўся і ледзь дацягнуўся да падсцілкі. На адвітанне не ўстаў, ад працягнутай рукі адсунуўся і хуценька падабраў лапы пад сябе.

Магутны госць не мінаў нашай хаціны. Дзік не брахаў на яго, не дазваляў сабе ніякіх іншых прыкмет варожасці, аднак бянтэжыўся і вянуў увачавідкі. Зірнуўшы на мяне, як бы папярэджваючы — глядзі, будзь асцярожны з ім, — сабака выходзіў у другі пакой і на вочы наведвальніка не паказваўся.

Відаць, гэта быў у яго жыцці першы выпадак, калі не капітуляцыі, дык прызнання сябе слабейшым.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**

*Поўнае дынамікі было выступленне вучняў з Ласінкі на аглядзе песні для моладзі.* Фота М. Ваўранюка

## РАЗВІТАННЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Развітваючыся „па-ангельску” („па-англійску”), знікаюць неўпрыкмет і моўчкі. У нас жа маўчаць аніяк не выпадае! Таму развітацца па-беларуску трэба вучыцца.

Самае распаўсюджанае адвітанне цяпер — „Да пабачэння!”. Дзе-нідзе кажуць і „да пабачання!”, але ж літаратурная мова выбрала першы варыянт. „Да пабачэння!” — гэта своеасаблівы скарот пажадання „Заставайцеся здаровы да нашага наступнага пабачэння”, пакуль зноў пабачымся. Дарэчы, дзеці часам, не задумваючыся над сэнсам слоў, вымаўляюць у адзін прыём: „Дапабачэнне!”. Так што значэнне ветлівых зваротаў варта тлумачыць.

У жывой народнай мове штодня гучаць і іншыя, менш „афіцыйныя” развітанні: „Заставайся (заставайцеся) здаровы! Бывай(це) здаровы!” Словы „Бывайце здаровы, жывіце багата”, дзякуючы славутай песні А. Русака і І. Любана, шырока вядомы і па-за Беларуссю.

Вельмі часта беларусы кажуць проста „Бывай!”, „Бывайце!” („...Нас не забывайце!”).

Калі развітваюцца з гаспадарамі хаты, кажуць: „Бывайце (або: Заставайцеся) здаровы!” У адказ чуюць: „Ідзі(це) здаровы!”.

Усяго найлепшага! Усяго добрага! — гэтыя словы прыдатныя для развітання і больш афіцыйнага, і шчыра-сяброўскага. А зусім свойскія — Пакуль! (Відаць, некалі гучала: Пакуль заставай/це/ся здаровы!). Трымайся! Крыху на польскі лад: Чэсці! (Скажаш і тут жа „атрымаеш”: Не панесці!).

Выбар, як бачыце, багаты. Ёсць і адмысловыя развітанні, не на кожную нагоду. Адыходзячы ці кладучы тэлефонную слухаўку позна ўвечары, зычым: „Дабранач!” (Толькі не „Спакойнай ночы”!) Падарожніка выпраўляюць гэтак: „Шчаслівай дарогі! Шчаслівa! Сакалінага лёту! Рушніком дарожка! Колам дарога!”.

**Вінцук Вячорка**

## Вершы Віктара Шведа

### ЧАМУ ВЫМАЮЦЦА ЗУБКІ?

Валодзік угледзеў у ваннай,
Што дзедка пазбыўся зубоў,
Памыў іх пад кранам старанна
І ў рот свой засунуў ізноў.

Унучак дзедку пытаецца:
— Скажы ты, дзядуля, мне,
Чаму твае зубкі вымаюцца,
А мае — не?!

### КАЗЛІНАЯ БАРОДКА

Прыйшла з пытаннем гэткім
Маленькая Даротка:
— Чаму ты маеш, дзедка,
Казліную бародку?

А дзедка ён на гэта:
— Мая ты каралеўна,
Сцвярджаю без сакрэту:
Яна ж мая, напэўна!

### ЗАРАБЛЯЦЬ І ТРАЦІЦЬ

Мара Мікалая:
— Мець бы столькі грошай,
Колькі зарабляе
Татка мой харошы!

А на гэта Каця:
— Хацела б таксама
Столькі грошай траціць,
Колькі плаціць мама...

Пішуць вучні

## Добры дзень, „Зорка”!

Пішуць Табе вучні пятага і шостага класа Пачатковай школы ў Старым Корніне. У нашых двух класах беларускую мову вывучаюць трынаццаць вучняў. Вывучаем яе паспяхова.

Кожны тыдзень атрымліваем „Зорку”. Чытаем яе на ўроках беларускай мовы. Вядзе іх настаўнік Васіль Сегень.

Цяпер бліжэй крыху скажам пра класы. Нашы класы налічваюць чатырнаццаць вучняў, у тым ліку — дзесяць дзяўчынак і чатыры хлопчыкі. Выхаваўцам класа з'яўляецца Уладзімір Петручук. Пра школу напішам ў наступным лісце. Запрашаем да нас цябе, „Зорачка”!

Да хуткай сустрэчы!

**Вучні V і VI класаў Пачатковай школы ў Старым Корніне**

З гісторыі Беларусі

## МІР

Мір стаіць на вельмі прыгожым месцы. А раней стаяў на яшчэ прыгажэйшым. З даўніх часоў тут людзі спачатку не жылі. Навокал ляжалі лясы і пушчы, у якіх вадзілася шматлікае звяр'ё ды птаства і парушалі спакой навакольных абшараў выпадковыя падарожныя і паляўнічыя. Потым зноў усё заціхала на доўгія месяцы. З цягам часу на самай высокай гары, з якой можна было агледзець мясцовасць на дзесяткі вёрстаў, з'явілася вартавая вежа аднаго з князёў. Дружыннікі пільна сачылі за тым, каб не пракраліся дзе лясными сцежкамі атрады чужынцаў, каб паспець своечасова папярэдзіць свайго валадара. Аднаго разу малады вой, які стаяў на верхняй пляцоўцы, убачыў, што ля далёкага возера на беразе нешта паблісквае і паступова прасоўваецца наперад, нібы вялізная змяя, якая выпаўзла са свайй нары пагрэцца на сонцы. Крыкнуў ён старэйшаму дружынніку, каб той узняўся да яго і глянуў. Вопытны ваяр адразу ж здагадаўся, што гэта варожы атрад прабіраецца на іх зямлю. Трэба скакаць да княжага двара і расказаць пра ўсё ўбачанае.

— Давай ты скачы, — звярнуўся ён да свайго паплечніка, які першым заўважыў чужынцаў. — Скажы князю, хай паспяшае, бо ворагі будуць ля нашай вежы дні праз два ці крыху пазней.

Паскакаў ваяр. А роўна праз двое сутак ля вежы быў ужо князь са сваім войскам. Да таго часу і чужынцы пачалі падыходзіць. Убачылі мясцовыя ваяры, што ворагаў намнога болей, але саступаць не збіраліся. Вырашылі стаяць да апошняга, каб не прапусціць няпрошаных гасцей, пра гэта і валадару свайму паведамілі. Толькі той па-іншаму разважыў. Быў ён надзвычай храбры, удзельнічаў у многіх бітвах, таму, каб зберагчы дружыну і край свой, выклікаў варожага князя на двубой. Хто пераможа — таго дружына і застанецца тут, а хто загіне, той і пакідае навакольле. Доўга яны біліся паміж сабою. Зраніліся абое, стаміліся. Адкінулі ў бок мячы і схапіліся голымі рукамі адзін за аднаго, ды так і зваліліся ў абдымках мёртвымі.

Дружыны моўчкі стаялі, гатовыя да бітвы, але яна так і не пачалася. Заключылі мір вoi і павярнулі назад. На месцы смерці князёў насыпалі высокі курган, а саму гару сталі называць Мір-гара.

**Аляксей Ненадавец**

**Адгаданка „Падарожжа...”. Здагадайся.** *Язь, яда, брама, пугач, парасон, градусы, драма, чайка, Ясь, мяч* і інш. **Малы ромб у квадраце.** *1) сарафан, 2) Алабама, 3) каравай, 4) Арктыка, 5) Магадан, 6) старана, 7) параход.* **Вялікі ромб у квадраце.** *1) Карэктар — арнамент, 2) трактары — парабала, 3) алебарда — старонка, 4) імшарына — панарама, 5) агароджа — байдарка, 6) кардамон — метафара, 7) арфаэпія — рэдактар, 8) Парфянон — плеткары, 9) старэйшы — каштарыс, 10) лагарыфм — лабарант, 11) аматарка — здарэнне, 12) лакатары — барометр, 13) дырэктар — артыстка.*

 

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІЇ

## 8

### Здагадайся




Запоўніце клеткі так, каб у сярэдняй вертыкалі чыталася слова *здагадайся*.

### Малы ромб у квадраце




Запоўніце клеткі па **гарызанталі**

1) від адзення;
2) штат у ЗША;
3) хлеб;
4) паўночная частка зямнога шара;
5) горад на паўночным усходзе былога СССР;
6) геаметрычны тэрмін;
7) від воднага транспарту.

### Вялікі ромб у квадраце




У кожным радку „Вялікага ромба ў квадраце" па два словы. Кожнае слова мае восем літар, сярод якіх у пэўным месцы павінны быць дзве: **а** і **р**. Для гэтага трэба ўпісаць у клеткі патрэбныя словы. Гэтыя словы маюць наступнае значэнне (па радках):

1) работнік друкарні; від народнага прыкладнога мастацтва;
2) машыны, якія прымяняюцца ў сельскай гаспадарцы і ў прамысловасці; лінія палёту кулі, снарада, кінутага каменя;
3) старажытная зброя; частка кнігі ці сшытка;
4) мохавае балота; від на мясцовасць, бачны вакол на далёкую адлегласць;
5) плот; лодка;
6) прыправа да страў і напіткаў; мастацкі прыём у літаратуры;
7) раздзел мовазнаўства; асоба, адказная за выпуск друкаванага або рукапіснага выдання;
8) помнік старажытнагрэчаскай культуры; людзі, што займаюцца плёткамі;
9) чалавек старэйшага ўзросту; прыкладны лік выдаткаў;
10) матэматычны тэрмін; памочнік у правядзенні доследаў, назіранняў, аперацый;
11) жанчына, якая мае схільнасць да якога-небудзь занятку; выпадковасць;
12) прыборы, што вызначаюць месцазнаходжанне аб'екта пад вадой і ў паветры; прыбор, які вызначае надвор'е;
13) службовая пасада; прадстаўніца мастацтва.

*(працяг у наступным нумары)*

<u>*ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ*</u>

*Ала Канапелька*

### ПАДУШКА

Птушкі ў вырай адляталі,
перайкі на луг скідалі.

Качкі скінулі пярынкі —
для маленькае дзяўчынкі.

Белы пух дарылі гусі,
пёркі мяккія — Ганусі.

І пуховую падушку
назбіралі мы з дачушкай.

На падушцы донька спіць,
сны птушыныя прысніць

пра высокія аблокі,
пра зялёны край далёкі...

Абдымае ў сне падушку,
прытуляе, нібы птушку,

днём і ноччу беражэ,
у сумненні сцеражэ:

— А калі ёй закарціць,
возьме ў вырай паляціць?..

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Чаму плачаш, сыночак? Хацеў параходзік — атрымаў параход. Чаго табе яшчэ трэба?
— Хачу мора!

* * *

— Ведаеш, мама, Коля ўчора прыйшоў у школу брудны і настаўніца адправіла яго дамоў.
— І што, дапамагло гэта?
— Пэўна: сёння палова класа прыйшла нямытая.

* * *

— Кася, які прадмет табе найбольш падабаецца ў школе?
— Званок.

* * *

— У каторай сваёй бітве загінуў Уладзіслаў Варненчык? — пытае Янку настаўнік гісторыі.
— У апошняй.

* * *

Двух вучняў гутараць пра сваю настаўніцу.
— Наша пані вельмі разумная, — хваліцца адзін. — Яна ўсё ведае, усё ўмее...
— А што гэта за мудрасць!? Яна ж дзесяты год у адным класе!

* * *

Настаўніца пытае Янку:
— Скажы мне, кім былі Славацкі, Пушкін, Лермантаў?
— Не ведаю. А вы ведаеце, хто гэта Зых, Худы і Казік?
— А хто яны?
— Дык чаму вы перада мною сваёй тусоўкай хваліцеся?

* * *

Малы Грышка кажа цётцы:
— Вельмі дзякую за падарунак.
— Сапраўды, няма за што, дзіцятка...
— Вядома, цёця, толькі што мама мне загадала вам падзякаваць.

* * *

Малая Зося звяртаецца да маці:
— Я схаджу ў краму, куплю сшытак.
— Крый Божа, не выходзь! Дождж такі, што сабаку шкада выгнаць з дому! У краму пойдзе тата!

Даслаў **Андрэй Гаўрылюк**

**Астрыд Ліндгрэн**

## ЛОТА. МІСІС БЕРГ

Місіс Берг — наша суседка. Нам вельмі падабаецца гасцяваць у яе. Паміж яе садам і нашым — плот, які мы з Джонасам пералезці можам, а Лота не. Але сабака місіс Берг вырыў яму пад плотам, і Лота магла прапаўзці тудою.

Гэтымі днямі мы былі ў місіс Берг. У яе ёсць камода з маленькімі шуфлядкамі, якія напоўнены цікавымі рэчамі.

— Місіс Берг, дазвольце, калі ласка, паглядзець на гэтыя цікавыя рэчы, — папрасіў Джонас.

— Добра, — адказала яна і паказала лялльку, з якой яна гуляла, калі была яшчэ маленькай. Ляльку звалі Роза.

Місіс Берг — вельмі старая, але ж не такая старая, якой яе ўяўляе Лота.

— Ці вы бралі з сабой Розу на Ноеў Каўчэг? — спыталася Лота.

Нядаўна тата расказваў нам пра Ноеў Каўчэг і пра тое, як стары Ной пабудаваў вялізную лодку, якая і звалася каўчэгам. А потым, на працягу некалькіх тыдняў, ішоў моцны дождж, і ўсе людзі, хто не быў з Ноем у лодцы, патанулі. Гэта здарылася шмат вякоў таму.

Місіс Берг засмяялася і адказала:

— Лота, даражэнькая, я не была ў Ноевым Каўчэгу!

— Як жа тады здарылася, што вы не патанулі?

Потым місіс Берг паказала нам, як яна зрабіла з адной з шуфлядак ложак для Розы. Матрас быў зроблены з ружовай тканіны, а коўдра — з зялёнага саціну. На Розе была блакітная вопратка. У другой шуфлядцы я ўбачыла маленькі шкляны кошык з ружовымі кветачкамі на ім.

— Можа, мы пагуляем з Розай і гэтым кошыкам? — спыталася Лота.

Місіс Берг дазволіла, і мы павесілі гэты кошык на руку Лоце, як быццам яна — Чырвоная Шапачка, якая ідзе да сваёй бабулі і нясе ёй ежу і бутэльку з сокам. На піяніна стаяла ваза з цукеркамі. Цукеркі былі падобны на бутэлечкі з сокам і закручаны ў бліскучы паперкі.

Мы паклалі ў кошык адну з цукерак, а таксама разынкі і міндаль, якія нам дала місіс Берг. Сабака місіс Берг, Скоці, быў ваўком. Я была бабуляй, а Джонас быў паляўнічым, які прыйдзе і заб'е ваўка.

— А што мне рабіць? — закрычала Лота. — Ці ж вы не хочаце, каб я была кімсьці?

Мы далі Лоце Розу і шкляны кошык і сказалі, што трэба рабіць Чырвонай Шапачцы. Але калі Чырвоная Шапачка прыйшла да бабулі — а гэта была гасціная місіс Берг, — у кошыку не было ўжо ні разынкі, ні міндаля!

— А дзе ежа для бабулі? — спытаў Джонас.

— Роза з'ела.

Пасля гэтага Джонас не хацеў больш гуляць з Лотай у Чырвоную Шапачку. А Скоці стаміўся прыкідвацца, што ён збіраецца з'есці бабулю. Джонас вісеў на ім увесь час, а Скоці віляў хвастом і нарэшце збег. Ён запоўз пад канапу і час ад часу выглядваў адтуль і гаўкаў. Скоці заўсёды падабаецца, калі мы прыходзім да місіс Берг.

Потым мы перагледзелі ўсе астатнія рэчы ў шуфлядках місіс Берг. Там быў ігольнік з чырвонага саціну, як сэрца, і маленькая карціна ў залатой раме, дзе быў намаляваны прыгожанькі анёл з доўгімі валасамі. У яго былі вялікія крылы, а апрануты ён быў у белую кашулю. Лоце падабаюцца малюнкі, мне таксама.

— Як жа гэта анёл змог апрануцца ў кашулю? У яго ж крылы. — Хацела ведаць Лота.

— Можа, ззаду кашулі ёсць маланка? — спытаў Джонас.

Місіс Берг зрабіла для нас вафлі. Калі мы прыходзім да яе, яна заўсёды частуе нас вафлямі.

— Сёння цёплы веснавы дзень, і вы можаце есці вафлі з гарачым шакаладам у садзе, — сказала яна.

Місіс Берг пайшла на кухню, а мы засталіся ў гасцінай. Было горача, і вокны былі адчынены. Джонас і я высунуліся з акна, і Джонас кінуў мне шарык, што быў у яго кішэні. Так мы і кідалі яго адзін аднаму, пакуль я не ўпусціла яго і ён не пакаціўся па лужку. Потым Джонас сказаў, што нам трэба паглядзець, хто з нас можа далей высунуцца з акна. Мы высунуліся так далёка, як маглі, і раптам Джонас вываліўся. Я вельмі спалохалася. Місіс Берг таксама.

Джонас сядзеў з вялікім гузам на ілбе.

— Міа-Марыя і я спрачаліся, хто можа далей высунуцца з акна, і я перамог, — сказаў Джонас.

Тым часам Лота выцягнула з вязання місіс Берг пруткі і распусціла світэр.

Міс Берг сказала, што было б лепей, каб мы пайшлі ў сад і з'елі нашы вафлі, а потым пайшлі дадому.

— Місіс Берг была рада сёння дзякуючы нам два разы, — сказаў Джонас маме. — Першы раз, калі мы прыйшлі, а другі — калі развіталіся.



 

# Каму пашыюць боты „ўкраінцы Падляшша”?

Прачула я, быццам „украінцы Падляшша” арганізуюць імпрэзу ў Курашаве (?!). Дай, думаю, паеду, ды пагляджу, як можна рабіць украінскую імпрэзу на базе беларускіх калектываў. Праўда, нехта зычлівы папярэдзіў мяне, што лепш было б перад гэтым пазваніць у чыжоўскі ГОК ды ўпэўніцца, ці ўпусцяць мяне, паколькі імпрэза мае месца, здаецца, закрыты характар. Не пазваніла. Паехала.

Хоць у модзе ў нас цяпер розныя тайныя імпрэзы, нарады, дык думалася мне, што ў „Асенніх сустрэчах з фальклорам” не можа быць нічога тайнага. Мо не выганяць?!

Яшчэ перад гэтым пазваніла ў Ваяводскі асяродак анімацыі культуры і даведалася, што выступяць там калектывы: „Бярозкі” з Кнарыдаў, „Чыжавяне” з Чыжоў, „Красуні” з Краснага Сяла, „Родына” з Дубяжына ды калектыў песні і танца „Калына” з Украіны. Пры нагодзе я пачула, што Саюз украінцаў Падляшша мае быць усяго адным з чатырох арганізатараў, а імпрэза мае быць канфрантацыяй рознага фальклору.

Ніхто мяне не выгнаў 30 кастрычніка з курашаўскага клуба — наадварот, Ніна Грыгарук, апякунка клуба і кіраўнік калектыву „Незабудкі”, адразу пачаставала кавай. На дзвярах, аднак, я ўбачыла дзве салідныя афішы аб мерапрыемстве — на ўкраінскай мове і адну — на польскай. Сярод запрошаных гасцей не было нікога ні з Беларускага таварыства, ні з беларускай радыёрэдакцыі ці друку. Былі толькі тыя, што прадстаўлялі арганізатараў і спонсараў: Гмінны асяродак культуры ў Чыжах і раду клуба ў Курашаве, Саюз украінцаў Падляшша з сядзібай у Бельску-Падляшскім, Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку і суполку „Пронар” у Нарве. Не было таксама ніякага калектыву з Беларусі, хаця ў рэгуляміне пра мэты сустрэч было напісана і так: „стварэнне шанцаў канфрантацыі мясцовых калектываў з калектывамі, прадстаўляючымі падобны фальклор (у тым ліку з калектывамі з Украіны і Беларусі)”.

Юрка Якімюк, дырэктар чыжоўскага ГОКу, спрытна вёў імпрэзу. Па чарзе выступалі калектывы: „Красуні”, „Чыжавяне”, „Бярозкі”, „Родына” ды *kapela podwórkowa* „Казюкі” з Беластока, што працуе пры ВААКу; яна спявала па-польску і чысценька па-беларуску. Усе спявалі так, як і рабілі гэта заўсёды, апрача... дубяжынцаў. Колішнія нашы славутыя „Дубочкі”, нядаўна пераапрануты ва ўкраінскія нацыянальныя касцюмы і „перахрышчаныя” на „Родыну”, сваіх песень гэтым разам не спявалі. Спявалі ўжо згодна з новымі касцюмамі, хаця фанетычна некаторыя словы ў іх яшчэ не зусім выходзілі. На заканчэнне выступіў украінскі самадзейны калектыў „Калына” з Кастопаля, што каля Роўна. Ну, а курашаўскім „Незабудкам”, якім у бягучым годзе споўніцца ўжо дваццаць, было сёння не да спеву — яны прымалі гасцей.

Нельга сказаць, што сабранай публіцы выступленні нейкага калектыву не спадабаліся. Усіх тут прымалі аднолькава радасна і сардэчна. Цешыліся курашаўцы, што нешта ў іх мясціне дзеецца, што яны не забыты людзьмі і светам. У іхняй вёсцы свята!

А ёсць тут дзе людзей прыняць. У гэтым колішнім клубе селяніна, сёння — святліцы, і раней ладзілі розныя імпрэзы. Цяпер жа яго разбудавалі — дабудавалі банкетную залу і кухню. Праўда, яны яшчэ не даконч аны, але размах відаць. Вельмі дапамагае курашаўцам ва ўсім нараўскі „Пронар”, які адкрыў пры клубе краму. Аплачвае не толькі працу крамаркі, якой з’яўляецца Ніна Грыгарук, але і апеку над святліцай. Наогул дае на ўсе імпрэзы, якія адбываюцца ў нас, сцвярджае Ніна Грыгарук. Тут мы праводзім і рэпетыцыі. Ну, і што, што паехалі мы ў Сопат на ўкраінскі фестываль?! Як заспяваем пяць песень сваіх, кажа, то ўжо ўкраінцамі станем?! Добра, што хоць запрасілі. Была магчымасць, каб людзі нешта ўбачылі.




*Дубяжынцам да камплектнага ўкраінскага строю не хапае толькі боцікаў.*

Прыблізна таксама гавораць жанчыны з кнарыдаўскіх „Бярозак”. У восемдзесят першым годзе давялося мне прысутнічаць на іх радасных хрысцінах. А сёння ім сумна. Вядома, мы больш беларусы, кажуць яны, наша і гаворка бліжэйшая, але нас ніхто нікуды не запрашае, а тут ёсць нагода паспяваць. Выступаем жа толькі на аглядах. Калі ў нас па хатах стаялі цяпер украінцы з калектыву „Калына”, то мы і ім сказалі, што не ўкраінцы мы, што мы — тутэйшыя. Бадай, „Бярозкі” не хацелі крыўдзіць гасцей. Беларусы — народ не ваяўнічы.

Мо ўсё б неяк сышло, каб не заключчнае слова магістра Юркі Гаўрылюка, сакратара Саюза ўкраінцаў Падляшша. Дзякуючы ўкраінскім спевакам і танцорам, што выступілі ў Курашаве, ён запэўніў іх, што: хоць раздзяляе нас граніца, спяваем мы тыя самыя, нашыя, украінскія песні.

Не ведаю, ці чуў Юрка Гаўрылюк тое, што пачула ў гэты момант я. „Якія ж тут украінцы?! — сказала седзячая побач жанчына. Мужчына ўздыхнуў: „Kapitalizm, łapanki”. Хтосьці выясніў: „Gdzie dwóch się kłóci, tam trzeci korzysta”.

Жанчына аказалася настаўніцай Марыяй Юзючук. Трыццаць сем гадоў навучала беларускай мове дзетак з Краснага Сяла. Сёння ў калектыве „Красуні” спяваюць яе вучаніцы і дзеці вучняў. У нас Валя Марціновіч, сказала яна, усё арганізавала. Гэта абсалютна беларускі калектыў. Ніякі ён не ўкраінскі.

Юрка Якімюк, у вольную ўжо хвіліну наракае, што вельмі цяжка было арганізаваць гэту імпрэзу. Ніхто не хацеў зрабіць яе ў сваёй вёсцы. Нарэшце згадзіліся курашаўцы. У Чыжах ужо чатыры гады падрад (апошні раз было ў мінулым годзе) адбываецца свята беларускай культуры. Апошняе было ў мінулым годзе. Да гэтага свята мы падрыхтавалі першае выданне „Gazety Czyżowskiej”, у якой змяшчаем тэксты і на беларускай мове. Сёлета свята беларускай культуры прайшло ў Кленіках. У Курашаве не мела быць ніякае ўкраінскае свята, пераконвае мяне ён. Гэта толькі частка праграмы нашай дзейнасці. Мы хацелі паказаць, што на гэтай тэрыторыі існуе розны фальклор. А заадно прадстаўнікі Саюза ўкраінцаў Падляшша запрапанавалі, што выступіць калектыў з Украіны, які якраз гастралюе на Беласточчыне. Выйшла крыху інакш.



*Гаспадыні з курашаўскіх "Незабудак" заспявалі толькі пасля ўсяго. Ніна Грыгарук — справа.*

Ёсць і радасныя праменьчыкі з маёй паездкі. Ніна Грыгарук у краме „Пронару” прадае штотыдзень адзінаццаць экземпляраў „Нівы”. Было чатыры штукі, пасля — пяць, а цяпер разыходзіцца аж адзінаццаць, кажа яна. Прысылаюць нам 3—4 экземпляры „Слова каталіцкага”. А ў нас на 120 гаспадароў усяго адна сям’я каталікаў, ды і тыя не купляюць гэтай газеты. Сяло гаворыць: даць больш „Нівы”! Праўда, чытаюць яе ўсё старэйшыя людзі, у сярэднім узросце. Пішыце больш для іх! Каб было цікава і зразумела.

А солтыс Васіль Нікалаюк — спачатку падцягнуты і насцярожаны — калі Ніна Грыгарук прадставіла яму мяне, шапнуўшы нешта на вуха, раптам заўсміхаўся, вочы яго засвяціліся, ён цмокнуў мяне ў шчаку: „То я ж не ведаў, што вы з нашай „Нівы”!”

І хаця доўга яшчэ калектывы ў неафіцыйнай частцы спявалі супольна розныя песні, а найчасцей, бадай, „Касіў Ясь канюшыну”, то ўсё ж свідруе мяне адно неадчэпнае пытанне: ці цяпер „украінцы Падляшша” закончаць камплектнае абмундзіраванне былых дубяжынскіх „Дубочкаў” і пашыюць ім так патрэбныя да ўкраінскіх касцюмаў аднолькавыя боцікі, ці — на фоне нашай немачы — абсталююць боты наступнаму беларускаму калектыву...

**Ада Чачуга**
**Фота аўтара**




*Спяваюць "Бярозкі" з Кнарыдаў.*



*Нівыя вершы*

*БАРЫС РУСКО*

### Ракавіна

У ракавіне зерне
гарызонта. Не.
Увесь гарызонт.
Кропля вады. Не.
Біблейскі патоп.
Шэпт струны. Не.
Гром неба.
Часцінка жыцця. Не.
Жывая галактыка.
У ракавіне святло слова.

### Горад

Бляск арэ цені вуліц,
а самаход ахрыпла стогне,
а туман гасіць пейзаж,
і не відаць дарогі.
Спазніўся — не трапіш
на споведзь.
А горад пухне
ў разбегу
і ўраганіць скрыгатам колаў,
і лічыць барыш і страту пасля
ночы.
Залатарукі ўсміхаецца да сонца,
а бабульцы не хапае на хлеб.

### Кола

Кола ўціскае ў сябе жменю зямлі
і мае дрэва,
і ўдар звана,
і кабалу жыцця,
і палазы, што рэжуць па грані
вачэй.
Кола бяжыць па мяккіх членах
памераў
і ўмятае вецер сумлення,
і плач,
і цэглу дня,
і крык.
Кола ляжыць на грудзях маёй
любові.

### Віна за няўвагу

З пахіленых сценаў,
з іржавай памяці,
з кульгавай хады,
з чырвонай кроплі,
здаю ў абдымкі ласкі мёртвае сэрца.
З кнігі віны,
з няпісанай позы,
з тупых udараў,
з крыку роспачы
прыношу боль на суд канчатковы.

# СЛОВА БОЖАЕ НА НЯДЗЕЛЮ

У 22 нядзелю пасля Пяцідзесятніцы, чытаецца ўрывак з 8 раздзела Евангелля паводле Лукі. Гутарка ў ім пра ўваскрашэнне 12-цігадовай дачкі Іаіра і аздараўленне кровачачывай жанчыны. Пераадолеўшы сваю пыху, начальнік сінагогі ў роспачы ўпаўшы да ног Ісуса благаў аздаравіць ягоную адзіную дачку, што была ўжо пры смерці. Пакуль Хрыстос прыйшоў у хату Іаіра, дзяўчынка памерла, аднак Ён уваскрасіў яе. Гэтак як пераадолеўшы боязь, жанчына, якая шмат гадоў хварэла кровацячэннем і таму лічылася нячыстай, тоячыся, дакранулася ў натоўпе да Хрыстовай вопраткі і атрымала аздараўленне. Няцяжка сабе ўявіць, колькі захадаў і сродкаў прысвяцілі абое: начальнік сінагогі Іаір, каб вылечыць адзіную дачку і жанчына, якая 12 гадоў несумненна звярталася да лекараў, аднак ніхто не дапамог ёй. У выпадку Іаіра трэба было перамагчы ў сабе не толькі ганарыстасць, але і боязь перад рэакцыяй свайго асяроддзя. Тым не меней яны абое паверылі, што толькі Хрыстос здольны дапамагчы ім і не расчараваліся.

Мы і сёння вымушаны канстатаваць, што гэтак, як дзве тысячы гадоў таму, людзі таксама і цяпер хварэюць і паміраюць. Высокі ўзровень медыцыны не мяняе факту, што яна ўвесь час у нечым бездапаможная. Зараз лёгка спраўляецца яна, напрыклад, з туберкулёзам, але засталіся інфаркты, ракі з'явіўся жахлівы СНІД. Можа дачакаем, што з часам знойдзецца лякарства і супраць СНІДа, але ніхто не ведае, ці не з'явіцца іншая невылечная хвароба. Такім чынам, як не гаварыць, усё адбываецца дакладна гэтак, як 3 тысячы гадоў таму пісаў цар Давід: „Сярэдні век чалавека 70 гадоў, і толькі як вынятак — 80 гадоў". Чуючы гук сірэны хуткай дапамогі ніхто разумны не скажа: „Вязуць хворага, але лекары напэўна выратуюць яго". Такой упэўненасці няма і не можа быць. Усведамленне няпэўнасці і крохкасці нашага жыцця не павінна адбіраць аднак рэштак аптымізму. Тут хутчэй за ўсё патрэбна нейкае філасофскае прымірэнне з горкай праўдай, на якую не маем уплыву. Наш быт ці нябыт проста залежыць ад кагосьці ці чагосьці іншага: называйце гэта як хочаце: лёсам, фатумам або Богам.

Літаральна разумеючы сённяшняе Евангелле можна дайсці да высновы, што лячэнне — дарэмнае і безвынікован. Як не дзіўна, ёсць людзі, якія візіт у лекара лічаць крайнасцю; іх звычайна пры смерці, у стане, у якім ужо на лячэнне позна, у шпіталь завозіць сям'я. Такім чынам і сёння адны бязмежна вераць у лекараў і модных цяпер „аздараўцеляў"-біэнергатэрапеўтаў; іншыя, трапляючы ў другую крайнасць — не вераць у ніякае лячэнне, бязмежна спадзеючыся толькі на Бога.

Паміж двумя крайнасцямі няма аднак супярэчнасці. Словамі Ісуса Сіраха Біблія гаворыць адназначна: „Бог стварыў на зямлі лячэнні, таму паважай лекара і карыстайся ім... бо і яго стварыў Бог, паколькі ён патрэбен" (Прамудр. 38: 4, 12). Адначасова разумеючы ад каго ў сапраўднасці залежыць аздараўленне, Сірах гаворыць: „У хваробе тваёй не будзь нядбайны і маліся Госпаду, а Той аздаровіць цябе" (38:9).

Для вернікаў ясна, што медыцына і лекары з'яўляюцца толькі прыладамі ў Божых руках. Заўсёды разумелі гэта таксама самыя выдатныя лекары. Айцец Леў Гарошка сабраў у сваёй кнізе „Навука і рэлігія" выказванні некаторых лекараў. Самуіл Ганеман, заснавальнік гамеапатыі сказаў: „Ёсць адзіны Бог, Які адначасова — Дабрата і Мудрасць. Ён стварыў сродкі, каб я мог лячыць хваробы". Язэп Рэкам'е, выдатны французскі хірург, заявіў: „Калі я займаюся хворым і вычарпаю ўсе медычныя сродкі, тады звяртаюся да Таго, хто можа вылечыць усё". Люкас Шампіннёр, слаўны хірург, гэтак жа гаварыў: „Магчыма, што мае асабістыя здольнасці да нечага прыдаюцца, аднак я ніколі не запускаю скальпель у цела, пакуль у думках не памалюся". Не менш выдатны нямецкі лекар Аўгуст Бір таксама гаварыў: „Калі мне здаралася мець поспехі большыя, чымсьці ў іншых прафесараў, дык толькі таму, што я сябе, у адрозненне ад шмат каго, не лічу разумнейшым за Міласэрнага Бога". Выдатны італьянскі лекар Мора пісаў у сваіх успамінах, што перад цяжкой аперацыяй сямігадовай дзяўчынкі, перад наркозам ён папярэдзіў, што цяпер трэба будзе ёй крыху паспаць. Тады дзяўчынка сказала, што калі так, дык перад сном трэба ёй памаліцца. Шчырая малітва дзіцяці, — успамінаў Мора, — узрушыла яго. Лекар далучыўся да малітвы, каб дзіця шчасліва перажыло аперацыю, што і сапраўды здарылася. „Потым, — успамінаў слаўны лекар, — перад кожнай аперацыяй я ўспамінаў тую дзяўчынку і маліўся на ейны лад. І Бог дапамагаў: мае аперацыі пераважна ўдаваліся".

Сведчанні выдатных лекараў пацвярджаюць толькі тое, аб чым глыбока перакананы кожны вернік. Прымаўка гаворыць: „Жаўнер страляе, а Бог кулі носіць". Гэтак жа Бог вядзе нават найбольш вопытную руку хірурга. І так, без Божага ведама „не падае нават волас з галавы чалавека", так і ніводная хвароба не забытая Ім. Проста, як гаворыцца ў Святым Пісанні, сапраўды: „Ці жывем, ці паміраем — належым да Госпада".

**а. Канстанцін Бандарук**

# У памяць Сяргея Карніловіча

У нядзелю 30 кастрычніка ў царкве Св. Тройцы ў Гайнаўцы а. Юры Ацкевіч адслужыў паніхіду ў памяць Сяргея Карніловіча. Раней, падчас абедні, а. Антон Дзевятоўскі прыпомніў вернікам постаць нябожчыка.

Сяргей Карніловіч быў чалавекам вядомым не толькі ў сваім Клілендзе, у якім быў адным са стваральнікаў беларускага цэнтра „Полацак". Ведаюць яго таксама ў Беларусі і на Беласточчыне. Успамагаў тут пабудову цэркваў, гайнаўскі Фестываль царкоўнай музыкі і Беларускі музей. Памагаў таксама звычайна, па-чалавечы, людзям.

Якраз адзін з такіх людзей, Мікола Бушко, выступіў ініцыятарам адслужэння паніхіды ў памяць Сяргея Карніловіча і іншых заслужаных для беларускай справы дзеячаў. За іхнія душы маліліся як гайнаўяне, так і госці з іншых мясцовасцяў, сябры і знаёмыя нябожчыка з Амерыкі. Прыгожа спяваў хор ведзены а. Негірэвічам.

Пасля паніхіды Мікола Бушко запрасіў прысутных на абед у дом культуры „Гурнік". У час абеду паўспаміналі Сяргея, а паколькі быў гэта чалавек вельмі дзейны, размова зышла на нашыя беларускія тут справы: будучыню нацы, школы, вынікі выбараў у Гарадскую ўправу ў Гайнаўцы і патрэбу аб'яднання беларушчыны з праваслаўем. Якраз прыкладам такога паспяховага дзеяння можа ўсім нам служыць Сяргей Карніловіч.

Зямля яму пухам!

**Алег Латышонак**

# Новы святар у Ольштыне

Вікарыем прыхода Пакрова Прасвятой Багародзіцы ў Ольштыне стаў з 1 верасня мой зямляк з Гайнаўкі Юры Чурак. Жыў ён пазней у Беластоку, а духоўную адукацыю атрымаў у Яблачыне. Пасля заканчэння навукі быў дыяканам у Паўночным Востраве каля Крынак. Там пазнаёміўся ён з прыгожай дзяўчынай Варварай Куклік з Крынак, з якою і ажаніўся. Пасля высвячэння на свяшчэнніка, атрымаў ён прыход у Вайнове каля Піша. Апекаваўся таксама прыходамі Праабражэння Госпадняга ў Мрангове і св. Юрыя ў Ожышы. Айцец Юры заступае цяпер настаяцеля Аляксандра Шаломава, які стаў вайсковым капеланам і часта выязджае да салдатаў у гарнізоны Слупскага, Гданьскага, Быдгаскага, Торуньскага, Сувальскага і Ольштынскага ваяводстваў. Айцец Юры і матушка Варвара прыгожа размаўляюць па-беларуску. Ольштынскія прыхаджане жадаюць ім „Многае лета"!

**Андрэй Гаўрылюк**

# Калекцыя з мытні

У Белай-Падляшскай ствараецца адна з найбольшых у Польшчы калекцый ікон — іх лік падходзіць пад 400. Уласнікам ікон з'ўляецца Акругова музей у Белай-Падляшскай. Іконы гэтыя трапілі сюды з Мытнай управы ў Тарэспалі, дзе былі канфіскаваны кантрабандыстам. У музеі знаходзяцца ўжо 125 ікон і ў бліжэйшым часе трапяць сюды яшчэ 250. Знаходзяцца тут таксама і іншыя творы праваслаўнага сакральнага мастацтва. Мастацкая вартасць ікон — розная. Некаторыя з іх былі напісаны яшчэ ў XVII стагоддзі; іншыя — пазней. Многія патрабуюць рэстаўратарскіх захадаў. Найбольшыя калекцыі ікон у Польшчы знаходзяцца ў Пярэмышлі, Саноку, Кракаве і ў Ольштыне. У гэтым апошнім горадзе можна паглядзець збор стараверскіх ікон.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ІКОНЫ

**Частка XI**

У 1992 годзе правёў я размову з былым жыхаром Лукі Лявонам Васільчыкам (1900—1994). На працягу апошніх васьмі гадоў жыў ён, як усе перасяленцы, у Бандарах. Быў чалавекам ціхім і да канца захоўваў цвярозы розум. Даведаўшыся пра тэму размовы, ён вельмі здзівіўся і сваё здзіўленне выказаў у досыць доўгай тырадзе.

„А што ж гэта такое, брацішку? Мне ужэ дзевяноста трэці рок на носе, але ніхто за мною ніколі пра іконы не гаварыў. Тым больш гэто дзіўно, што ты бандарэц, а бандарцы то яны, што тут не гавары, не вельмі інцерэсуюца пабожнымі дзеламі. От, возьмем хоць бы тваго пакойнага бацьку. Я яго добрэ знаў. Парадачны быў чалавек, але ў царкві то я яго ніколі не бачыў. Праўда, ён не нападаў на папоў так як Яначко (Іван Бура), але ў цэркву то вон не хадзіў. У нас, у Луцэ то крыху было па-другому. Пачці што ўсе мужыкі час ад часу ў цэркву хадзілі і ездзілі, хоць наш прыход аж у Ляўкові, а гэто ж каля восьмі вёрст ад Лукі. Калі мне было штэрнаццаць лет, то распачалася першая міравая і мы паехалі ў Расею. Цар мяне ў армію не ўзяў бо быў я замалады але ў часе бальшавіцкае рэвалюцыі то мяне прызваў у армію Дзянікін. Служыў я ў абозе і хадзіў без вінтоўкі, а после ўзялі мяне бальшавікі, далі вінтоўку і мне прышлося ваяваці.

От, знаеш, брацішку, у Дзянікіна то былі іконы, а ў бальшавікоў — то барані Божа. Агітатары крычалі, што Бога німа і ўсё! Але ты знаеш, я бачыў ні раз, як тые, што адракаліся ад Бога цяжко ранены прасілі, каб ім даць у рукі ікону. Я, брацішку, то цэлы час быў веруючы і веру да сягодня. Веру, што ест рай і пекло і што на рай трэба заслужыці добрымі ўчынкамі. Ну, але ты хочэш, коб я гаварыў пра іконы, то я табе раскажу пра адно вельмі важнэ здарэне, каторэ было ў Луцэ можэ ў 1924 року, а можэ крыху пазней. Ну, то яно было так. У тых часах за тае панскае Польшчы то людзі жылі ў страшнай бядзе. А найгорш то жылосе бежанцам, каторы вярнулісе з Расеі і часта замест хаты засталі толькі попел і галавешкі. Ну то тады, брацішку, страшно кралі. Кралі ўсё — і жыто з свернаў, і бульву з ямаў, і соль з каморaў, і жывіну з хлявоў. Вядомо, бяда да ўсяго прымусіт. Ну то ў нас, у Луцэ было такое здарэне. У аднаго мужыка, Максімам яго называлі, укралі каня. А ты знаеш, што гэто для мужыка значыт. Гэто ж смерць, каюк і годзі! Што ён ні выраблаў і на паліцыю ездзіў, і да папа хадзіў, і людзей распытваў. І ўсе дарэмно, як камень у воду. Ну то, брацішку, хтось яму дарадзіў, каб ён дастаўся ў Яблочна і там памаліўся перад чудатворнаю іконаю, то вана ему павінна памагчы. Ну то ён пашоў. Ведомо, што тады ні было пэкаэсаў, каторы цябе як пана вэзут куды хочэш. Пашоў пешком, так можэ верст дзевяноста, а можэ і больш. Зашоў, памаліўся і вярнуўся. Раптам ноччу сніцца яму сон. У тым сне прыходзіт да яго Багародзіца з тае чудатворнае яблочынскае іконы і кажэ: „Максіме, твой конь украў адзін мужык із Скупава. Ідзі туды, у трэцім хляве з краю стаіт твой конь".

Чуць свет узяў з сабою Максім двох здаравенных сыноў. Засунулі яны за паскі сякеры і пайшлі. Гэто ж ад Лукі так можэ верст пятнаццаць будзе. Зайшлі яны ў тое Скупаво і адразу на трэці падворак. А да іх гаспадар з віламі як не выскачыт! Але калі сыны Максімавы павыцягалі сякеры, то гаспадар абсеў. Падышлі яны да хлява, а хлеў на штабу замкнёны. І тут Максім, не ў цеме быў біты, узяў і закрычаў: Буланы! Буланы! А з хлява конь як не заіржэ, значыцца, пазнаў гаспадара. Тут усё стало ясно. Хлопцы за сякеры і пачалі дзверы рубаць. Тады гаспадар кажэ: „Не рубайце, прынясу ключ". Прынёс, адкрылі дзверы і вывелі каня. Максім з сынамі ў паліцыю не пашлі, але так скатавалі злодзея, што той доўго не пажыў. У нас парадачныя людзі хвалілі Максіма за яго паступак.

От, бачыш, брацішку, што значыт ікона. Без ае Максім ніколі каня не знайшоў бы".

**Алесь Барскі**

# ПАНАРАМА ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЫ

### (11)
### Флора і фауна

На тэрыторыі Гарадоцкай гміны знаходзіцца значная частка Кнышынска-Беластоцкай пушчы. Сярод дрэў пераважаючымі пародамі з'яўляюцца сасна і елка. Саснова-яловыя бары з прымессю бярозаў, ядлоўцаў, крушыны і іншага хмызняку займаюць найбольш сухія месцы на слабаўраджайных глебах. Між іншым на Святаянаўскіх пагорках каля Каралёвага Моста растуць перш-наперш сосны, грабы і елкі ды ў меншай ступені плоданожкавыя дубы, бародаўкавыя бярозы і асіны.

Найураджайнейшыя глебы займаюць дубова-грабавыя лясы, з прымешкаю ліпы, бярозы, клёна, асіны, ляшчыны. Лясны падсціл тут надта багаты. Апрача імхоў выступаюць папараці і разнастайныя травы.

Размяшчэнне парод залежыць, галоўным чынам, ад прыродных умоў, і ў першую чаргу, ад ураджайнасці глеб і іх вільготнасці. Найбольш нізкія падмоклыя ўчасткі займаюць альшатнікі з добра вызначаным другім ярусам з рабіны, каліны, крушыны і чаромхі, а таксама высокім травастоем.

Астаткі натуральнага лесу пратрымаліся на багнах. Тут яго пакінулі, бо не карчавалі з-за непрыгоднасці для земляробства.

Травяная расліннасць найбольш багата прадстаўлена на заліўных сенажацях у далінах рэк Супрасль і Плоска (Плёска) ды іх шматлікіх прытокаў.

Варта адзначыць, што вялікія абшары засадзілі лесам пасля першай і другой сусветных войнаў, а перш за ўсё ў Кнышынскай пушчы, дзе акупант пабудаваў густую сетку вузкакалеек і вёў драпежніцкую гаспадарку. У першую сусветную вайну высеклі каля 10 тысяч гектараў найбольш вартасных дрэвастояў. У міжваенны перыяд вялікае спусташэнне ўчынілі караеды, а таксама ўраган у 1928 годзе. У тамашніх пушчанскіх лясах жывуць, між іншым, алені, дзікі, сарны, лісы, рысі, куніцы, зайцы і барсукі. Зімою паяўляюцца ваўкі. Даволі багата тут птушак. Яны прадстаўлены каля 200 відамі, сярод якіх сустракаюцца птушкі ўжо даволі рэдкія, занесеныя ў чырвоную кнігу. Тут палююць на глушцоў, цецерукоў, рабчыкаў, бакасоў і на іншых птушак. Найбольш усялякіх дзікіх звяроў можна сустрэць ва ўрочышчы Радунін у Валілаўскім надлясніцтве. З паўзуноў тут сустракаюцца змеі, вужы, трытоны і яшчаркі.

Кнышынска-Беластоцкая пушча мае цікавую фізіяграфію ды такі ж рэльеф тэрыторыі. Тут маляўнічыя краявіды і сухі лясны мікраклімат. У Гарадоцкай гміне адным з лепшых месцаў для суботне-нядзельнага адпачынку з'яўляюцца лясы ў наваколлі, між іншым, Каралёвага Моста.

***

Рака Супрасль праз пасрэдніцтва прытокаў Плоскі (Плёскі), Слоі, Сакалды, Дзернякоўкі, Грыбаўкі, Случанкі, Сенажаткі, Радулінкі, Сярэдняй, Пярэймы, Старынкі і нескалькіх меншых рачулак абязводжвае тэрыторыю Кнышынска-Беластоцкай пушчы. Мяркуюць, што пачала яна фармавацца 15—16 тысяч гадоў таму назад.

У даліне ракі Супраслі ёсць шмат шырокіх паплавоў з буйнай воднай і балотнай расліннасцю. Між гэтай расліннасцю выступаюць зараснікі вярбы і альшыны. У некаторых месцах, заліваемых вадой, выступаюць вышэйшыя выспы, часта зарослыя мяшаным лесам. Уздоўж пушчанскіх рэчак, раўчукоў і ручайкоў цягнуцца перш-наперш альховыя і альхова-ясеневыя дрэвастоі. Такі характар даліны спрыяе не толькі багаццю воднай і балотнай расліннасці, але ствараe добрыя ўмовы бытавання для рознай жывёлы. Яна дае магчымасць знаходзіцца тут, рабіць гнёзды і карміцца цэламу раду водных і балотных птушак, паўзуноў і буйнейшых млекакормячых.

Супрасль і яе даліна — гэта значны важны аб'ект адпачынку для беластоцкай агламерацыі. Пастаянны кантакт з натуральным краявідам — неабходная фізіялагічная патрэба чалавека, якая можа рэгенераваць яго фізічныя і псіхічныя сілы. Паўнатуральныя лугі маюць прыродалячэбнае значэнне. Уплыў іх на здароўе чалавека заключаецца перш за ўсё ў выдзяленні выпараваючыхся субстанцый, а таксама ў павышэнні вільготнасці і ачышчэнні ніжніх слаёў атмасферы ад пылу. Ёсць яшчэ адзін грамадскі аспект ракі Супраслі — гэта рыбалоўства. У даліне згаданай ракі ды яе прытокаў вакол натуральны краявід, першабытны спакой і чыстае смаляное паветра. Як вядома, у Супраслі на адрэзку да Васількова чыстая вада. Яе п'юць жыхары Беластока, гэтай амаль 300-тысячнай агламерацыі.

### Карысныя выкапні

На фармаванне сучаснага рэльефа тэрыторыі Гарадоцкай гміны самае вялікае ўздзеянне аказалі два апошнія абледзяненні і праца вады з таючых ледніко́ў. Ва ўсходняй частцы гміны пад адкладамі чацвярцічнага перыяду, гэтага наймалодшага комплекса парод, залягае пішучая крэйда, але яна прыкрыта пяскамі і, як мяркуецца, фасфарытамі. Пласты гэтыя належаць праўдападобна да алігацэну. У ніжняй праслойцы сустракаюцца апрача таго іншыя акамянеласці.

Зямныя нетры гміны вывучаны слаба і немагчыма рабіць канчатковыя вывады аб іх багацці. Варта было б зрабіць буравыя шчыліны і даведацца, што знаходзіцца пад глаўканітавымі пяскамі ці пад бітумінознымі глінамі.

Мінеральным багаццем Гарадоцкай гміны з'яўляюцца жвіры. Радовішчы іх знаходзяцца між іншым каля Баброўнікаў, Дзернякова і Залукаў. З іншых мінеральных выкапняў неабходна адзначыць пяскі. Шэрыя, белыя сартаваныя ці звычайныя жоўтыя пяскі сустракаюцца амаль усюды і выкарыстоўваюцца насельніцтвам як дапаможны матэрыял пры пабудове мясцовых дарог ды бетонных работах.

Жалезныя руды асадачнага паходжання знойдзены ў даліне Супраслі. Калісьці плавілі яе недалёка ад Гарадка. На гэтым месцы і зараз існуе пасяленне Руда.

Каштоўным багаццем у згаданай гміне з'яўляецца торф. Радовішчы яго знаходзяцца, між іншым, на поўнач ад Гарадка, ва ўрочышчы „Руда" ды ў верхнім цячэнні ракі Супраслі.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**




**Паважаная Рэдакцыя!**

Мы з мужам былі пастаяннымі чытачамі вашага тыднёвіка дагэтуль, пакуль не пачалі ў ім друкаваць непрыстойныя і вельмі шкодныя паклёпы з мэтай прыніжэння некаторых людзей. Але, як гаворань у народзе: свайго дрэннага не выхваліш, а чужога добрага не зганіш. Пабачылі, што некаторыя, атрымаўшы свабоду, пачалі выліваць на ніўскую паперу ўсё, што толькі задумалася ў іхных галоўках і зусім у непераборлівы спосаб сталі абражаць людзей больш вартасных, чым яны самі ды і перасталі мы „Ніву" купляць.

Перш-наперш крыўдна мне было чытаць аб тым, калі М. Панфілюк, нягледзячы на нішто, абражаў Васіля Петручука, якога я ведаю з дзяцінства, а „Ніва", асабліва яе галоўны (былы) рэдактар ахвотна тое друкаваў.

Цяпер мы даведаліся, што Панфілюк у „Ніве" просіць у Петручука прабачэння. Купілі газету, прачыталі і ўпершыню вырашылі адазвацца.

Мы не ведаем, як паставіцца да гэтага В. Петручук, гэта яго справа, аднак, цікавіць нас, што ў такой сітуацыі павінен адчуваць былы галоўны рэдактар?

Панфілюк напісаў, што палемізаваў з Петручуком. Калі ён гэтую пісаніну называе палемікай, то барані нас Божа ад такіх палемістаў.

В. Петручук дачакаўся перапрошаў, але што з гэтага, калі патрацію зусім непатрэбна здароўе, бо вельмі нерваваўся, што „Ніва" друкуе хлусню, якую чытаюць ува ўсім свеце і маюць яго за горшага сталініста, чым быў сам Сталін, ды перасталі да яго пісаць пісьмы людзі з Англіі і ЗША. Калі тыя людзі памерлі, дык адышлі ў перакананні, што вялі карэспандэнцыю з чортам, прачытаўшы „Дух сталінізму, пагарды і хлусні". Баранілі Васю публічна М. Куптэль і Д. Шатыловіч. Дзякуй ім за гэта.

**Галіна,**
**Беласток.**

**Ад рэдакцыі:** Мікалай Панфілюк ужо тры разы перапрашаў Васіля Петручука ў „Ніве". Васіль Путручук даў Панфілюку свае прабачэнне. Нядобра, што дайшло калісь да так вострай палемікі ў „Ніве" і таму цешымся, што паважаныя намі карэспандэнты памірыліся. Лічым, што калі Петручук дараваў Панфілюку, спадарыня Галіна павінна адобрыць рашэнне свайго сябра.

# Толькі пазайздросціць ілгуну!

Калі я пісаў сваю бедную „Пожню", ніколі нат не падумаў, што хтосьці яе выдасць. А ўжо аб тым, што гэтая кніжка выкліча аж такую дыскусію, не мог спадзявацца нават такі знаток літаратуры, як Сактар Яновіч. Аказалася, што ўсе мы памыліліся, бо дыскусія не спынілася па сённяшні дзень і працягваецца ўжо, слава Богу, звыш васьмі гадоў.

Праз гэты час атрымаў я шмат цудоўных, падбадзёрваючых мяне рэцэнзій і пісьмаў з далёкіх краін, і ад вядомых людзей, як хаця б Яўген Мірановіч, Тэлесфар Пазняк, Георгій Марчук з Мінска і шмат іншых. З другога боку, дзякуючы гэтай кніжцы не праспаў я многіх нервовых начэй, глытаючы лякарствы ад сардэчнага болю. І гэта мяне больш пераканала, што не трэба было разграбаць заскарузлыя раны, хаця і былі прыгожыя пахвалы за „праўдзівую, з жыцця ўзятую кніжку, якая паказала жыццё не толькі бедняка, малога Васіля", — як напісалі беларус і украінка.

Я, наіўны, ніколі не падумаў, што на маю, дагала брутальна выказаную праўду, адазвецца аж столькі людзей, якія свой „гонар" ратуюць хлуснёй, назваўшы мяне ілгуном. Знайшліся і такія, якія ўмяшаліся ў не свае, як кажуць, справы і пачалі абліваць мяне памыямі ды намагаліся падмачыць маю рэпутацыю не толькі на вёсках, але і за акіянамі.

Нехта пад уплывам іншага напісаў, што я жулік, злодзей і бабнік (?!). Ён нібыта мяне добра ведае, бо хадзіў са мною ў школу ў Дубічах. Я нерваваўся, бо гэтага чалавека не ведаю і ў дубіцкую школу (колькі маю паўтараць?) не давялося мне зайсці ні разу пры панскай Польшчы, а пры саветах школа была ў Грабаўцы, куды не хадзілі дзеці ні з Дубічаў, ні з Тафілаўцаў. Але гэта не ўсё. Паклёпы і хлусня трываюць.

28 кастрычніка г.г. мяне запрасілі на вечарыну для сеніёраў у ГП БГКТ. Там сустрэў я Віктара Шведа, якога не бачыў ад 20 чэрвеня, ад Дня беларускай культуры. Менавіта ў гэты дзень падышла да столікаў, пры якіх падпісвалі свае кніжкі М. Гайдук, В. Швед і я, жонка аднаго з нашых „дзеячоў" і сказала: „Я здзіўляюся, што вас так мучыла мачаха, як вы пішаце, а ў вас такое тоўстае...", — хацела сказаць „рыла", але толькі паказала на твар. Сябры гучна рассмяяліся, а я разгубіўся і пачаў тлумачыцца, вядома, няўмела, бо быў ашарашаны. Яе словы і смех сяброў засведчылі чарговы раз, што я ў сваёй кніжцы налгаў.

І вось цяпер, на вечарыне я запытаўся Віктара Шведа чаму ён так смяяўся. Адказаў ён, што нядаўна быў у Тафілаўцах і там адна жанчына сказала яму, што мая мачаха не была такой дрэннай. Яна ведае, бо хадзіла са мною ў школу.

Калі б Віктар Швед чытаў „Пожню", як гаворыць, бо я не прымушаю, або хаця крышку верыў мне, то ведаў бы, як яе пацягнуць за язык, каб нешта больш сказала. Напрыклад, мог запытаць у якой я вопратцы хадзіў, якія боты насіў і якую ежу з сабой прыносіў. Яна тады праўдападобна бессаромна ілгала б далей. Тады Віктар Швед з літасцю паглядзеў бы на яе і сказаў: „Ведаеце што? Наколькі я ведаю сітуацыю і Васіля, то ён ніколі ў дубіцкую школу не хадзіў". Пабачыў бы яе твар і вочы. А так, напэўна, з ёю згаджаўся і падтакваў. Зрэшты, смех Віктара Шведа і Міколы Гайдука далі мне зразумець, што яны не вераць у тое, аб чым я коратка расказаў у „Пожні".

Людкове, я вам не бараню крытыкаваць мяне і маю творчасць, але прашу у вас: захавайце чалавечую годнасць, хаця б настолькі, каб не ілгаць у жывыя вочы, бо гэта вам нічога не дасць. Я не займу вашага месца ў раі па зусім простай прычыне: я туды не траплю, а толькі, як сказала адна сектантка-іегавістка, угнаю метр нікому не патрэбнай зямлі, недзе пад хвойкай.

Пані Зенюк! Я ведаю, але вы хіба не ведаеце, што і з Асвенціма нехта вярнуўся, і з Калымы некаму ўдалося вярнуцца і рыла сабе наліць. Я ж цяпер, слава Богу, не на мачышыным хлебе. Тым больш, што мая жонка заступае мне найлепшую маму. Яна — найлепшая жонка, якой толькі можна „ілгуну" пазайздросціць.

Я нікога не прымушаю, каб мяне любіў, але прашу, не ачарняйце мяне, бо я і так чорны. Я ў сваёй кніжцы ўсяго толькі прабегся па 22 гадах майго існавання і то колькі гармідару нарабіў. А што было б, каб усё, што памятаю, спісаў дзень па дню, як гэта зрабіў я ў „Беларускі каляндар на 1995 год", апісваючы свой адзіны дзень у тэксце п.з. „Жніво"?

Баюся, што маглі б мяне распяць за гэта.

**Васіль Петручук**

# Не свішчы ноччу!

Старажылы распавядаюць, што нячыстая сіла мае найбольшую моц ад 12 гадзіны ўдзень да 12 гадзіны ноччу. Тады найбольш трэба яе асцерагацца.

Нельга ноччу, кажуць, свістаць, бо тады выклікасш нячыстую сілу.

Аднойчы адзін хлопец вяртаўся з вячорак. Дарога вяла цераз лес. Раптам юнак пачуў, што нехта свісну́ў. Хлопец адсвіснуў. Свіст пачуўся бліжэй. Хлопец зноў адсвіснуў.

Так яму адсвіснула, што аж залягло ў вушах!

Тады зразумеў, што тут справа з нячыстай сілай. Плюнуў, перажагнаўся і сказаў:

— Адыдзі ад мяне, сатана!

Завыў вецер так, што дрэвы паляглі. Спалоханы хлопец пабег капытнікам дадому. Кажуць, калі ісці капытнікам (дзе конь ступае), чорт не будзе вадзіць па бездарожжах.

На другі дзень хлопец пайшоў паглядзець тое месца, дзе яго страшыла. Думаў, лес будзе ляжаць покатам. Дрэвы стаялі, аднак, стройна, як раней.

**Аўрора**

## З гараскопа друідаў

ДУБ *(21 сакавіка)*. Велічнае, магутнае дрэва, што дажывае да 2000 гадоў, здаўна цанілася каштоўнай драўнінай, карой, з якой здабываюць дубільныя рэчывы, жалудамі, што выкарыстоўваюцца як лекавы сродак і як харч для дзічыны і хатніх жывёл. Нашы продкі выкарыстоўвалі гэтае дрэва ў шматлікіх абрадах.

Людзі, што нарадзіліся ў час веснавога раўнадзенства, сваёю паставаю, здароўем, веліччу і годнасцю параўноўваюцца з дубам. Яны адважныя, вытрыманыя і шчодра надзеленыя воляй як у сэнсе імкнення да незалежнасці, так і ў сэнсе ўмення падначаліць усё для дасягнення намечанай мэты. Дубы — зычлівыя і гасцінныя, любяць адчуваць сябе гаспадарамі, верныя ў сяброўстве. Але ў каханні яны непастаянныя, бо самі часта становяцца ахвярамі чарговых захапленняў, лічачы кожны раз, што гэта каханне „ўжо назаўсёды". Вабяць такіх людзей канкрэтныя справы, думаюць яны спраўна і ясна, не пазбаўлены інтуіцыі. Аднак дубы маюць і адмоўныя рысы характару. Яны не ўмеюць быць эластычнымі, не ўмеюць прабачаць, з-за чаго маюць шмат клопатаў, а маглі б дамагчыся значна больш, каб былі дыпламатамі. Дубы — кансерватары, што зросліся са сваім асяроддзем, і нічога не хочуць мяняць. Неахвотна прымаюць змены, жыццё іншых іх не цікавіць, самае важнае — уласныя праблемы.

*(працяг у наступным нумары)*

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

**(16)**

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33-36, 38-46 н-рах)*

Надзея Руско прызналася мне, што сама таксама нешта складае. Вось вам адна яе песня і дзве прыпеўкі.

**Лянок**

Ой, сеела лянок, сеела.
Калі зыдзеш ты лянок,
дажыдалася.
І зышоў мой лянок,
кветкі галубые.
А за месяц, за два,
галоўкі залатые.
І вырвала лянок сваімі рукамі,
і палажыла цябэ роўнымі кучкамі.
А як высох мой лянок, у клуню панасіла,
і шо сілы, прачом галоўкі малаціла.
А як змалаціла, да хаты насіла,
на гарачую печ цябэ палажыла.
А як высох лянок, церліцаю церла.
Церла, выцірала, трапачкаю трапала,
шчоткаю часала.
І тады мой лянок выглядзеў як шолк.
На нітачкі прала, а як спрала,
на сноўніцы снавала.
А як аснавала, на навой у кроснах навівала
і палотна тонкіе ткала.

**Прыпеўкі**

*

Наварыла, напакла,
ні для кого, для Пэтра.
Бо у нашаго Пэтра
удалая галава!

*

Горэ, мае горэ,
нешчасліва доля,
ой, шчо мой міленькі
не начуе дома.
Пойдзе, як змаркае,
прыйдзе, як світае.
Кладавіцца спаці
в папарок краваці.

Запісаў **ПЁТР БАЙКО**

## Як цыганка Фядосю памагала

Калісьці, яшчэ далёка да вайны мой дзядзька Фядось пайшоў у прымы ў Малыя Пасечнікі, да Аверкавай Веры, што пад лесам жыла. Верка была вельмі бурклівай і непрыльнай кабецінай, а яе бацькі таксама не былі кампанейскімі людзьмі. Дзядзька прыходзіў да сваёй маці, бабы Гапкі, і наракаў, што жыццё ў яго нейкае невясёлае. Ну, што ж было рабіць маці? Хвалявалася. І аднойчы яе дом наведала цыганка і паабяцала ёй дапамагчы ў справе Фядося — хтосьці ёй раней падказаў, што ў сына гэтай жанчыны ёсць нейкая бяда. Нешта там потым варыла ў гаршочках, шаптала, і за кожны „сеанс" трэба ёй было плаціць самаробным сукном, салам ці каўбасой. Хаця баба Гапка была вельмі скупой жанчынай, не шкадавала дабра для сына, хаця тое дабро цяжка прыходзілася.

Цыганцы, пэўна, „памагло", а Фядосю — як мёртваму кадзіла. Верка бурчала на яго не менш, чым раней.

**Мікалай Панфілюк**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Нядаўна прыснілася мне мая мама. Яна памерла рана, калі мне было 19 гадоў, перад маім вяселлем. Нарадзілася ў мяне дачушка. Яна маленькай часта хварэла. Калі толькі мела яна захварэць, на некалькі дзён перад гэтым мне снілася мама. І я ўжо ведала — мама прыснілася, значыць, дачушка вось-вось будзе хворая. Так працягвалася досыць доўга, аж пакуль не падрасла яна і, як кажуць, „вырасла" з тых хвароб. Потым мама не снілася. А вось цяпер снілася так. Нейкі казённы дом. Нейкія людзі. І бачу, мама мая! Невыразная постаць. Бачу толькі, стаіць яна, апранутая ў белую доўгую сукенку. І раптам нейкія людзі гоняць яе. Мама ўцякае. І я. Выбегла я з гэтага дома, аглядаюся — няма мамы. Я крычу: „Мама, дзе мая мама?!." І канец. Што гэта мяне чакае, Астроне?

**Вера**

Вера! Маці, на жаль, заўсёды прадвяшчае нейкія непрыемнасці, клапатлівыя справы. Я, зрэшты, даўно пра гэта пісаў. У маладосці найбольш непакоіла цябе здароўе дачушкі, гэта быў для цябе пункт нумар адзін сярод усіх жыццёвых спраў. Вось таму сны пра маму папярэджвалі цябе, што мала захварэе.

У даны момант такі сон можа прадвяшчаць любую непрыемную для цябе справу. Не магу канкрэтна сказаць, але не мусіць гэта быць хвароба. Можа быць гэта ў нейкай справе страта самастойнасці — табе ж прыснілiся нейкія людзі у казённым доме. А можа быць небяспечнае падарожжа — у прамым ці пераносным сэнсе, — пакольні табе снілася, што вы з мамай уцякалі.

**Астрон**

## ВІРАВАНКА



1. вяршаваны твор на гістарычную тэму, 2. дубінка з патаўшчэннем на канцы, 3. збудаванне для сена, 4. надвор'е, 5. гара паэтаў, 6. англійскі рамантычны паэт (1788—1924), 7. рымскі паэт II—I ст. да н.э., аўтар „Метамарфозаў", 8. мана, 9. пачынальнік, першапраходчык, 10. расейскі пісьменнік (1870—1938), аўтар „Паядынка", 11. скупяга, 12. шэраг арак.

**(Ш)**

**Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.**

**Адказ на крыжаванку з 40 н-ра:**
**Гарызантальна:** какаду, Мостар, ганада, арба, арат, геральдыка, чума, дама, Ярцава, шыітка, даліна.
**Вертыкальна:** карсар, дуга, мода, Арарат, навальніца, „Багема", аркада, чувашы, марэна, ярка, вада.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх і Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока.

*З гісторыі беларускага нацыяналістычнага руху на Беласточчыне*

## ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую, што „Ніва" ў рэшце рэшт належным чынам ацаніла мае здольнасці і магчымасці (глядзі: „Мы прачыталі", „Ніва" н-р 42 (2005) ад 16.X.1994 г., с. 2). Нельга, аднак, пра тое было сказаць яшчэ на пачатку васьмідзесятых гадоў (у 1982—1984 гг.), калі менавіта ў ёй пачынаў я сваю пісьменніцка-публіцыстычную і навуковую кар'еру (каля 300 публікацый у адных толькі 30 перыядычных выданнях 6 краін Еўропы і Амерыкі) і адкуль у кароткім часе як „агента Украінскай Паўстанцкай Арміі" прагнулі мяне з яе, узначаленыя тав. рэд. Міхасём Хмялеўскім, партыйныя таварышы. За гэта былі яны адзначаны высокімі ўзнагародамі і партыйна-дзяржаўнымі медалямі, усё ж не маглі яны аднак жа задушыць цалкам маіх пачуццяў і думак пра далейшае нацыянальнае і культурнае адраджэнне на гэтай роднай мне зямлі як майго роднага шматпакутнага ўкраінскага, так і суседняга братняга (усяго толькі праз раку Нараў) беларускага народаў! Сёлета, якраз пад канец года, урачыста адзначу дзесяцігадовы юбілей гэтага майго пакутніцкага выгнання, таму такая высокая ацэнка „Нівай" маёй асобы ў гэтым юбілейным годзе вельмі для мяне дарэчы! Дзякую! Тым больш, што і змяніўся час і ўпоўцы цяпер ужо сталі не „бандытамі", а героямі!..

Наогул не каменцірую я каментарыяў, але, калі ўжо пачаў, дык хацелася б, каб у рубрыцы „Мы прачыталі" прыводзіліся цытаты ў арыгінале і без памылак, а то чытач Бог ведае што яшчэ можа пра мяне падумаць. Служу таксама, калі запатрабуе нейкая рэдакцыя, поўным тэкстам маёй палемікі з вядомым паэтам, дац. д-р габ. Іванам Чыквіным — старшынёю Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", змест якога налічвае каля 16 старонак машынапісу, пры адной толькі ўмове: што будзе яна надрукавана поўнасцю і без ніякіх памылак! Хоць гэта можа гучаць нясціпла, але ёсць у ёй чаму павучыцца беларусам!

Мяне, як радавога ўсяго толькі члена Саюза ўкраінцаў Падляшша (членам БГКТ я ніколі ў жыцці не быў і слава Богу!), цікавіць, вядома, перш за ўсё маё роднае Падляшша, таму зацікаўленым падаю да ведама, што ўкраінскую мову ў Пачатковай школе н-р 4 у ягоным княжым горадзе — Бельску вывучае ўжо каля 100 дзетак! Калі нехта з чытачоў „Нівы" хацеў бы яшчэ пасланць туды сваіх дзетак, калі ласка, запрашаем! Вельмі магчыма, што ўжо хутка і ў іншых тут школах дзеткі пачнуць вывучаць сваю родную ўкраінскую мову, у першую чаргу ў Гайнаўцы і Сямяцічах.

Што аднак жа датычыць Пярэмышля, дык дзейнічае ўжо там адна ўкраінская школа — Пачатковая школа імя Маркіяна Шашкевіча — названа так у гонар выдатнага ўкраінскага паэта, які жыў і тварыў у 1811—1843 гг., аднаго з найактыўнейшых дзеячаў адраджэнскай „Рускай тройцы" і на яе базе ўзнікае ўжо агульнаадукацыйны ліцэй з украінскай мовай навучання. А, калі хочаце, дык можаце сюды прыехаць, каб паспрабаваць заснаваць тут свой Саюз бяшчадскіх беларусаў. Калі ласка, запрашаем, паспрабуйце сваіх сіл! (...)

Адносна Сувальшчыны, дык аддаю беларусам толькі тое, што ім праўна належыцца, не забываючы таксама і пра братоў-літоўцаў. Магчыма, што і я па бабцы прус (родам яна з-пад Прусянаў→Пружанаў — славянская назва Дабучын, куды прусы ўцякалі перад крыжаносцамі, бышцам бы я з „Нівы" перад беларусамі, асімілюючыся затым з мясцовым насельніцтвам). Беларусам аддаю ўсяго толькі тую частку Мазураў, на якой яны ўжо мазурацъ...

Дэзінфармацыя „Нівы" не абмінула нават нумара „Вядомосьці культуральных", у якіх надрукавана мая вялікая публікацыя. Надрукавана яна ў 16, а не ў 15 нумары, як дэзінфармуе „Ніва".

Так спадар, Сакраце Яновіч! Час сталінізму мінуў, а з ім і ваш час на тое, каб і надалей рабілі вы нашым людзям ваду з мазгоў!

На гэты свой Юбілей запрашаю, вядома, і Вас!

З павагай
**Юры Трачук**

**Ад рэдакцыі:** Чытачоў „Нівы" перапрашаем за тое, што спасылаючыся на „Wiadomości Kulturalne" замест нумара 16 надрукавалі 15.





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ШТО ЗДАРЫЛАСЯ?

Дзень, здаецца, як дзень. Але ж не — не зусім звычайны.

Прыйшоў у сваю кантору. Сустрэў у калідоры шэфа. А той кінуў на мяне позірк і ажно спалохаўся:

— Што здарылася?

— Нічога. А чаму вы пытаеце? — пачаў я хваляваўца.

Але шэф не адказаў — яго чакала легкавушка.

Перад абедам зайшоў у магазін. Узяў у рукі бляшанку з марской капустай, задумаўся. Прадаўшчыца з цікавасцю агледзела мяне і раптам пачала ліхаманкава папраўляць пірамідку бляшанак. А потым шапнула:

— Магу прапанаваць вам крыху сардзін у масле...

„Што за вар'яцтва? — думаў я, ідучы па вуліцы. — З нейкай пашанай усе пачалі ставіцца да маёй сціплай асобы".

Неўзабаве мяне дагнаў даўні знаёмы, Антон Бірулька.

— Ну і ну! — здзівіўся ён. — Што, за мяжу едзеш?

— Ты што? Адкуль узяў? — здзівіўся я.

— Чаго ж тады так выфранціўся?

І тут мне цюкнула: „Дык во чаму ўсе глядзяць так на мяне ды ставяцца з павагай. Сёння жонка выфранціла мяне, каб разам схадзіць у фатаграфію. Пяць гадоў, як пажаніліся..."

**Віктар Рэчыц**

## ЭПІГРАМЫ

### Кравец-рвец

Каб той больш яму паверыў,
Ён кліента доўга мерыў.
Сем раз мерыў, не спяшыў,
Толькі ўсё — на свой аршын!

### Бывае ветлівы

Бывае ветлівы:
Звяртаецца на Вы
Тады, калі баіцца,
Яшчэ — калі дзіваіцца!

**Станіслаў Валодзька**

## СЕНТЭНЦЫІ

* * *

Ён на латках жыцця прадаваў
сваю годнасць. Яго годнасць,
што выдых затхлага паветра.

* * *

Ёсць каштоўнасці бясцэнныя.
Жыць у іх свеце, гэта дакранацца
да святла і ласавацца
далікатэсамі думкі ў подыху цішы.

* * *

Звалка — месца вечнага
адпачынку за верную службу.

* * *

Роспач заўсёды капае яму.

* * *

У прамінання
смак горкіх міндаляў.

**Барыс Руско**






Мал. Л. Разладава

## ЗБЫТАК СЦІПЛАСЦІ

Я застаў пісьменніка Н. у ягоным кабінеце. Адрэкамендаваўся і выцягнуў з кішэні пінжака блакнот і ручку.

— Раскажыце, калі ласка, пра сваё жыццё і дзейнасць.

— З дзяцінства я рос геніяльным, — сарамліва адказаў Н. — У два гады навучыўся чытаць, а праз тры месяцы пачаў пісаць вершы. Нядаўна былі надрукаваны некаторыя мае раннія вершы, але яшчэ да публікацыі я атрымаў усхваляваныя водгукі чытачоў. Пасля школы я падаўся ў тэхналагічны інстытут, а не ў літаратурны, як гэтага трэба было чакаць. Чаму? — спытаеце вы. Можна адказаць так: я — гэткі ж геній у навуцы, як і ў літаратуры. Да таго ж, тэхналагічны інстытут быў бліжэй да майго месца жыхарства (з дзяцінства я, як і ўсе геніі, вялікі гультай). Таму думаць тут не прыйшлося.

— Раскажыце пра вашыя апошнія творы, пра творчыя планы.

— Думаю. Хаджу. Часам запісваю. Шмат пішу. Мною спісаны ўжо больш як дзве тоны першагатунковай паперы. Самыя знатныя з маіх твораў друкуюцца: нядаўна знаёмая машыністка аддрукавала новыя вершы: „Мой погляд", „Мой шлях", „Маё каханне". Далейшыя планы: пісаць, пісаць і пісаць!.. Задумаў філасофскі артыкул для „Нівы".

— Які пісьменнік зрабіў найбольш значны ўплыў на вашую творчасць?

— Увогуле, цяпер я пішу лепш, чым большасць існуючых калі-небудзь пісьменнікаў. Кажучы сціпла, я — талент, узыходзячая зорка на фоне бяздарнасці і літаратурнай безгустоўнасці. Не сакрэт, што чытач мяне даўно прызнаў. Пра мяне нават у букварах хутка напішуць.

— Што б вы пажадалі на развітанне чытачам нашага тыднёвіка?

— Жадаю поспехаў у працы і асабістым жыцці, а таксама моцнага здароўя...

— Дзякуй за цікавае інтэрв'ю, — сказаў я славутаму пісьменніку. — Жадаю новых творчых поспехаў.

Седзячы дома за кубкам кавы і рыхтуючы інтэрв'ю ў нумар, я думаў: гэта ж трэба такому здарыцца! Я, звычайны малады журналіст, яшчэ паўгадзіны назад гутарыў з геніем!

**Уладысь Цвяткоў**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

— Ахрэм, твой конь капусту есць!

— Няўжо ж не будзе есці — яна ж салодкая!

— Ахрэм, зараз усю з'есць!

— А то пакіне.

— Ахрэм, дык гэта ж твая капуста!

— Ай, ліха на цябе, чаму ж ты раней не сказаў?!

* * *

Неяк заяц і чарапаха высачылі тыгра.

— Заяц! — сказала чарапаха. — Табе выпаў гонар нанесці яму апошні ўдар.

— А як жа ты? — пашкадаваў яе заяц.

— Што зробіш, — уздыхнула чарапаха. — Павінен жа нехта расказаць аб нашым подзвігу!..

* * *

— А чаму вы гэта, кума, так спацелі, рабілі нешта цяжкае?

— Ды рабіла... лаялася цэлую раніцу вось з тою гарлатаю Ганулькаю, дык яно крыху і той... потам праняло...

* * *

Зубны доктар свідруе, свідруе ў зубе пацыента...

— Пан доктар, — уздыхае ў перапынку пацыент, — запэўняю вас, што нафты ў мяне не знойдзеце.

* * *

Паліцыянт падыходзіць да п'янага, які ходзіць навокал бочкі, трымаючыся за яе рукой.

— Што вы робіце?

— Іду дамоў. Калі гэты плот кончыцца, мне будзе направа.

* * *

Муж і жонка адыходзяць з гасціны дадому. Гаспадары просяць іх пабавіцца яшчэ. Муж гатовы згадзіцца, але жонка рашуча запярэчвае:

— Не, няма часу. Дома нас чакае доўгая сварка.

**Падборку зрабіў Янка Ляўкоўскі**



Мал. Я. Бусла




Даражэнькае Сэрцайка! Такая трагедыя мяне спаткала, што не сказаць, не апісаць. Ёсць у нас адзін-адзіны сын. Найлепшы, найразумнейшы. Для яго мы жылі і працавалі. Думалі, што вялікі чалавек з яго вырасце. Ну, і вырас такі чалавек, што не давядзі Бог!

А ўсё было ў парадку да таго часу, пакуль не паехаў вучыцца ў Варшаву. І паслухмяны быў, і вучыўся выдатна. Цяпер дык думаю, што каб вучыўся горш, дык мо не здаў бы ў тую унікальную школу, у якую мала хто і паступае, але не скажу табе, у якую, бо там з Беластока нікога, апрача майго сына, няма. Людзі б пра яго даведаліся.

Бяда, не атрымаў інтэрната. Трэба было наняць яму кватэру. Сын сказаў нам не турбавацца, бо ён сам знойдзе кватэру, дык мы былі спакойныя.

Праз нейкі час сын паведаміў нам, што часова ўзялі яго на кватэру двое выкладчыкаў з яго школы — муж і жонка. Буду ў іх, пакуль не знайду кватэры, сказаў ён, але грошы можаце прысылаць ужо. Гэтыя гаспадары з мяне грошай не бяруць, але калі давядзецца наняць кватэру, то трэба ж будзе заплаціць.

Гэта мяне насцярожыла, як гэта так, каб у чужых людзей ён жыў без грошай. Ну, але, ведаеш, лішняга граша ніколі няма, дык так усё і засталося. Мінуў месяц-другі, а сын сядзіць у іх. Паехала я ў тую Варшаву паглядзець, як ён там жыве. А там — суцэльны люкс! Цудоўная віла, пакояў мо дзесяць, абстаўлены незвычайна і з густам. А сям'я невялічкая: бацька, маці ды дачушка, на год маладзейшая за майго сына. Ну, і жывуць жа людзі! Пашанцавала майму сыну: хоць крышачку, але пажыве ў раі! Не тое, што ў нашым „М-3".

Але сын не выбіраўся, а жыў у гэтых людзей, як у сям'і. Я не магла надзівіцца, якія ж добрыя людзі здараюцца на гэтым свеце, а пасля пачала думаць рознае. Спачатку вырашыла, што гэтыя людзі хочуць затрымаць у сябе майго сына, каб мець разумнага і прыгожага зяця. Прывыкне, пакахае і ажэніцца. Пасля падумала, што можа ён заказаўся ў іхнюю дачку, дык сядзіць і не кранасцца з месца. Перадумала ўсё, але так і не магла зразумець, што дзеецца з маім сынам. Грошы я яму ўсё роўна пасылала, каб меў свае, але за кватэру ў яго не бралі.

Быў ужо трэці год яго вучобы ў Варшаве, калі я неспадзявана атрымала ліст ад дачкі яго гаспадароў. Цяжарная! — мільганула думка. Ну, што ж, бедна б не ажаніўся, супакоіла я сябе. Віла, бацькі і т.д. не даюць падставы, каб хвалявацца. Я пачала хутчэй чытаць гэты ліст.

Божачкі! Ці хто калі думаў, што можа мяне спаткаць такое няшчасце?! Дзяўчына пісала і, відаць, плакала, бо ў некаторых месцах яе ліста відаць былі плямкі ад слёз. Пісала мне, бо не можа даўжэй глядзець на тое, што робіцца ў яе хаце. Яе бацькі выкарыстоўваюць хлопца для інтымных спраў, ён „абслугоўвае", як сказала яна, раз — маму, раз — тату, а яны за гэта не бяруць ад яго ніякіх грошай, а нават кормяць яго і пояць. Мама любіць маладых хлопцаў, але і тата — таксама. Ён у іх — не першы кватарант, толькі яна была малая і нічога з гэтага не разумела.

Што можна было зрабіць у такой сітуацыі?! Выслала я ў Варшаву мужа. Зрабіў там страшэнны скандал. Гаспадары апраўдваліся, што ніякіх супольных оргій тут не было, а дарослы хлопец можа, бадай, рабіць тое, што хоча.

Мы не ведалі, за што схапіцца. Пайшлі да дэкана. Пастараліся, каб наш сын атрымаў дэканскі водпуск, а тады выехаў у Амерыку да цёткі. Трапіў да нейкіх д'яблаў з анельскім аблiччам, дык вось і кансеквенцыі. Можа, там пра ўсё забудзецца...

**Марта**

Ой, Марта, Марта! Або забудзецца, або яшчэ больш набярэцца паскудных звычаяў. Ну, але добра і тое, што вы адцягнулі пакуль што яго ад гэтай кампаніі. Мо там сустрэне вартасную дзяўчыну.

**СЭРЦАЙКА**